# Напоўніць чаркі любата нам за каханне ў год Катá!


● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 4000 рублёў

**31** снежня 1998 г.
чацвер,
№249–250
(23600–23601)







# ЗВЯЗДА


Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

***ШАНОЎНЫЯ НАШЫ ЧЫТАЧЫ!***

***Перад Вамі апошні, 250-ты нумар «Звязды» ў 1998 годзе. Мы хацелі данесці да Вас нейкую мазаіку падзей года мінулага, зрабіць прагноз наконт таго, якім будзе год 1999-ты. Мы свядома пайшлі на тое, каб аб'ектыўную рэальнасць жыцця краіны прапусціць праз суб'ектыўнае ўспрыманне нашых аўтараў, памятаючы, што кожнаму ў жыцці свеціць сваё сузор'е. А гэта, як сцвярджаюць астролагі, — свой характар, свае паводзіны, свой лёс... І нават свой тост. Пра гэта навагодні нумар «Звязды», які аформіў мастак Алег Карповіч, а прагноз да кожнага знака задыяка зрабіла пастаянны аўтар «Звязды» Вераніка Кудраўцава.***

***ШЧАСЦЯ, ДАБРАБЫТУ, ЛЮБОВІ І РАДАСЦІ ВАМ, ШАНОЎНЫЯ НАШЫ ЧЫТАЧЫ, У НОВЫМ 1999 ГОДЗЕ!***

## НА ГАЛОЎНАЙ ЁЛЦЫ КРАІНЫ СЮРПРЫЗАЎ БЫЛО НЕ ЗЛІЧЫЦЬ

Пабываць у цырку марыць кожнае дзіця, а трапіць сюды пад Новы год — гэта двайное свята. Менавіта такі падарунак падрыхтавалі для соцень маленькіх грамадзян рэспублікі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, Савет Міністраў і Беларускі фонд сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў «Мы — дзецям». 29 снежня ў Беларускім дзяржаўным цырку запаліла свае агні галоўная навагодняя ёлка краіны. Удзельнікамі гэтага маляўнічага свята сталі переможцы розных алімпіяд, конкурсаў і спаборніцтваў, выхаванцы дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў.

Але перш чым пачаўся спектакль, дзяцей, якія сабраліся ў цырку, з надыходзячым святам павіншаваў Аляксандр Лукашэнка. «Я ад душы рады бачыць тут шмат прыгожых, добрых, жыццярадасных твараў, ваш звонкі смех не можа пакінуць абыякавымі нас, дарослых. Мне б шчыра хацелася, каб гэта адчуванне шчасця было з вамі на працягу ўсяго новага 1999 года», — сказаў прэзідэнт.

**БЕЛТА.**

**Многія замежныя традыцыі ў нас хутка прыжыліся. І мы з ахвотай вітаем год Жоўтага Ката, ці Труса, якім з'яўляецца 1999-ты згодна з усходнім календаром. Праўда, падымаць келіхі з шампанскім пад бой гадзіннікаў 31 снежня, сустракаючы надыход новага года, мы будзем памылкова. Па сапраўднаму Кот (ён жа Трус) пачне гаспадарыць толькі з 16 лютага, хоць у Японіі амаль за тыдзень да традыцыйнай даты святкавання руль кіравання ад усурыйскага тыграняці перадалі напалоханаму зайцу. Была наладжана афіцыйная цырымонія з гэтай нагоды. А па персідскаму календару 1999 год настане яшчэ пазней — аж 21 сакавіка. І будзе ён годам Дзікага Вепрука. Але пра гэтыя «недарэчнасці» пагаворым у наступным годзе, балазе ён толькі пачынаецца. Пакуль жа зададзімся пытаннем, дзе, як, з кім і ў чым сустракаць Новы год?**

## Складаны год будзе лягчэйшым, калі сустрэць яго ў жоўтым

ЗВОПРАТКАЙ, прынамсі, усё вельмі проста. Колеры надыходзячага года — жоўты, бэжавы, карычневы, аранжавы, залацісты. Значыць, апранаць трэба нешта з мяккіх, натуральных тканін выйшэйпералічаных адценняў. Добра ўпрыгожыць сябе залатымі пярсцёнкамі ды ланцужкамі. Толькі тут варта не перабраць, бо залішні бляск толькі раздражняе. Вядома ж, самае лепшае — ператварыцца ў ката ці зайца. Аднак гэта па жаданню. Ва ўсякім разе, сустракаемая жывёла крыўдаваць не стане, калі вячэрні строй з бавоўны, шэрсці, ільну будзе ўсяго толькі аздоблены футрам.

Хутчэй вы рызыкуеце разбудзіць звера, паставіўшы на святочны стол стравы з зайчаціны. Дарэчы, і ад свініны ды бараніны госць таксама адверне нос. Затое на вегетарыянскія стравы накінецца з трайным апетытам. Так што салатаў з морквы, капусты, яблыкаў, рознай зеляніны павінна быць ні многа ні мала, а дванаццаць дакладна. Налягаць на моцныя напоі непажадана, і лепш устрымацца ад рэалізацыі жадання сустрэцца з Вепруком. Усяму свой час. Падыдзе — сустрэнеце.

Ну а збірацца лепш цесным сямейным колам, бо надыходзячы год нясе хатнюю ўтульнасць і псіхалагічны камфорт. Супакойцеся і не мітусіцеся — тады і ў новым годзе рашэнне ўсіх праблем будзеце знаходзіць разважліва і без нерваў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

ЗВЯЗДА 31 снежня 1998 г. 3

# Ноччу ўсе кошкі шэрыя

Фота Андрэя ШАЎЦОВА.

**Пад канец стагоддзя час пачынаеш адчуваць амаль фізічна. Дзень, тыдзень, месяц — час імкнецца да нуля. Нуль, канешне, створаны нашай фантазіяй, але ўражанне канчатковасці часу ад гэтага не меншае.**

**Апакаліптычныя матывы адчуваюцца па ўсім, найбольш — у паводзінах людзей. Яны пакутуюць ад апатыі, дэпрэсіі, чорнай меланхоліі. Не ведаю статыстыкі, але, відаць, у канцы стагоддзя колькасць псіхічных захворванняў павінна павялічвацца. Ва ўсякім разе, гэта было б лагічна.**



**Сказанае датычыць нас прама, можа быць, больш чым каго. Грамадства нагадвае пасажыраў цягніка, які нясецца ў падземным тунелі. Прычым чыгунка раздвойваецца, і адзін накірунак заканчваецца глухой сцяной. Машыніст хоча даць задні ход, аднак ззаду рухаецца наступны цягнік. Пасажыры ў паніцы: адны спрабуюць саскочыць, другія крычаць, што трэба налева, трэція — направа, чацвёртыя — мірна спяць.**

**Кропку ў спрэчках можа паставіць глухая сцяна.**

## I.

Верагодна, час — самая ўмоўная катэгорыя (адначасова і самая рэальная). Людзі прыдумалі дзяліць час на канчатковыя адрэзкі: хвіліна, гадзіна, год, стагоддзе. Гэта сапраўды вельмі ўмоўна, бо чалавека цікавяць, бадай, толькі яго нараджэнне і смерць. Каму цікавыя хвіліны і гады?

З гэтай умоўнасці з'яўляюцца трапяткія адносіны да мяжы стагоддзяў. У канцы кожнага стагоддзя ажыццяўляюцца тэорыі канца свету, ідэя Армагедона як рашаючай бітвы Дабра са Злом, і ўвогуле, наступае «сенакос» для псіхаў. Відаць, гэта ад усведамлення сваёй грахоўнай, дакладней, дваістай прыроды: чалавек умяшчае ў сабе і дабро і зло.

Яшчэ больш умоўнай здаецца катэгорыя часу, калі ўважліва прыглядзецца да кожнага чалавека. Я неаднойчы лавіў сябе на думцы, што вось гэты жыве ў XIV стагоддзі, гэты — у XVIII, а той — увогуле па-за часам. Па выразу Герцэна, XIX стагоддзе — толькі зверху, крыху ніжэй — XIV а далей — гатэнтоты і кафры розных адценняў скуры. Прымусьце людзей думаць выключна аб кавалку хлеба — і ён апынецца ў першабытнасці. З усімі адсюль наступствамі.

А што такое сучаснасць? Што значыць — быць сучасным? Якія тут крытэрыі? Магчыма, трэба гаварыць аб універсальных прынцыпах: свабодзе, адказнасці, міласэрнасці, цярпімасці, павазе сваіх, а значыць, і чужых правоў і інш. Адсюль, калі чалавек аддае перавагу турме, але не свабодзе, то ў якім ён часе?

Напрыклад, стаяць у чарзе, у любой чарзе — гэта прыніжэнне. Ці многія гэта разумеюць? У цэнтры Мінска — больш як палова чаргі, на яго ўскраіне — чвэрць, у райцэнтры — адна дзесятая, а ў вёсцы, можа быць, ніхто. У сваю чаргу тыя, хто разумее, — гэта патэнцыял нацыі. Свайго роду абгрунтаванне нашых прэтэнзій на сваё месца ў свеце.

Працэс «перасялення» большасці беларусаў з мінулых стагоддзяў у сённяшняе — аб'ектыўны. З-за пэўных прычын ён становіцца імклівым. Каталізатарам з'яўляецца простая магчымасць знікнення дзяржавы, а за ёю і нацыі — для адных, для другіх, прашу прабачэння, ужо рэальнае знікненне прадуктаў харчавання.

## II.

Ноччу ўсе кошкі шэрыя. Ранкам мы жыццярадасныя аптымісты, вечарам — вялыя песімісты. Таму ноччу кошкі — шэрыя. Ноч пераважае ў душах, пачуццях, размовах. Мёртвы песімізм разліты ў газетных артыкулах і кнігах.

Калі я ў чарговы раз чытаю чарговы «рэквіем» па беларусах, мне адначасова смешна і сумна. Больш — сумна. Мне ясна, што чалавек заблытаўся ў часе. Ён выдумаў сабе казку пра «залаты час» Вялікага княства і ўсё вымярае гэтым. Ён прыняў сённяшнюю характарыстыку грамадства за канчатковую, а гэта толькі момант у гісторыі яго развіцця. «Залаты час» ніколі не вернецца, а людзі такія, якія ёсць.

Што ёсць крыніца нашага песімізму? Трагічная нацыянальная гісторыя альбо сыры клімат? Відаць, усё разам. Апытайце дзесяць «тутэйшых», і дзевяць з іх адкажуць, што ў заўтрашнім дні нічога добрага не чакаюць. Але гэта толькі асаблівасць беларускага менталітэту, і яе ролю не трэба перабольшваць. Гэта таксама вынікае з сумы мінулага, калі сёння немцы, заўтра — палякі, паслязаўтра — рускія і г.д. У разважанні гэткіх нюансаў беларус так прывык хаваць свае існыя пачуцці, што гэта стала нацыянальнай адметнасцю.

Нельга не ўбачыць тут і дзеяння інстынкту самазахавання: песімісты жывуць даўжэй, бо загадзя думаюць пра горшае.

Вядомы публіцыст параўнаў наш сённяшні стан з наступствамі лабатаміі — выдалення лобных доляў мозгу. Чалавек ператвараецца ў расліну. Мелася на ўвазе амаль татальнае вынішчэнне нашай інтэлегенцыі ў 20-я і 30-я гады. Зніклі тыя, хто павінен тлумачыць і расказваць.

Мне зразумелыя пачуцці калегі, і я іх падзяляю. Аднак тут штосьці не сыходзіцца. Пасля Вялікага княства сапраўднай свабоды духу ў нас не было. Была толькі адносная. У 1918 годзе гэта вылілася ў БНР, а ў 1991-м — у Рэспубліку Беларусь. Дзяржавы не ствараюць народы, гэта справа Асоб. Кожны раз яны аднекуль з'яўляліся? Так. Адкуль?

Яны раслі, вучыліся, працавалі, ваявалі, думалі, перажывалі разам з намі, але рабілі гэта крыху вастрэй. З'яўленне гэтых людзей заканамернае, бо абумоўлена тым, што задача самаідэнтыфікацыі нацыі — не вырашана. Калі вырашыцца, спатрэбяцца, магчыма, людзі іншага кшталту, тыя, хто будзе захоплены не нацыянальнай, а, скажам, індустрыяльнай, экалагічнай, інфармацыйнай ідэямі.

Але закон дзейнічае заўсёды адзін і той жа: грамадства выклікае да жыцця тых асоб, якія здольны даць яму штуршок. У гэтым сэнсе нават з'яўленне ўмоўнага Адольфа Вісарыёнавіча Піначэта чымсьці апраўдана і для чагосьці патрэбна. Гісторыя не з нас пачалася і не намі скончыцца: на гэта вельмі часта забываюцца.

## III.

Чым жыве сёння свет? Не ў бытавым сэнсе — тут мала што змянілася з біблейскіх часоў: быць сытым, апрануцца, мець над галавою дах. Што хвалюе людзей і чым яны занятыя?

Брытанцы кланіравалі авечку Долі, паўднёвыя карэйцы ўжо могуць кланіраваць людзей, але сказалі, што пакуль не будуць: народ пратэстуе. Японцы выдумалі гадзіннік, які працуе ад электрастатыкі чалавека. Са з'яўленнем Інтэрнэта пачалася інфармацыйная эра. Людзі таксама заклапочаны «азонавай дзіркай» і абаронай Зямлі ад магчымага прылёту кавалка жалеза з космасу. І гэтак далей.

Чым заняты мы? Фігуральна кажучы, ляжым у кювеце і сумна назіраем за бліскучым патокам машын, якія праносяцца па гладкай, бы шкло, аўтастрадзе. Мы выпалі з патоку. Хаця спрабавалі туды ўкліпіцца. Аказалася, што патрабуецца адпаведная хуткасць.

«Ну і няхай, — сказалі мы, — куды спяшацца?»

Мы сёння, трэба прызнаць, мала каму цікавыя са сваімі нацыянальнымі праблемамі і дрымуча-патрыярхальнымі ідэямі. Шчыра, дык не цікавыя нікому. Апафеоз гэтай нецікаўнасці можна было назіраць у апошнім выпуску «Вынікаў» на НТБ, калі вядомыя расійскія «эксперты» і адзін журналіст абмяркоўвалі праблемы беларуска-расійскага саюза. Адметна, што размова вялася выключна аб палітычных і эканамічных выгадах для Расіі. Беларусь як бы з самага пачатку выводзілася за дужкі, яе толькі дзялілі і памнажалі: вечны лёс бедных родзічаў.

У Еўропе мы сёння не патрэбныя ні ў якай ролі: ні як эканамічныя партнёры, ні як напаўміфічны культурна-духоўны цэнтр. Нас будуць пакрысе, аптэкарскімі дозамі, прывучаць да цывілізацыі. Нас будуць цярпець і пакуль цярпець, але да пэўнай мяжы: калі мы не станем перашкаджаць агульнаму працэсу.

Перад чалавекам, які ляжыць у брудным лужыне, існуюць толькі два рэальныя шляхі: альбо ўстаць і пайсці, альбо ляжаць далей. Па вызначэнню ніхто не можа падняць гэтага чалавека і даць яму правільны накірунак штуршком пад зад. Толькі сам. Праўда, для гэтага трэба мець жаданне падняцца.

## IV.

Па-мойму, правільных войнаў няма. У так званых справядлівых войнах людзі гінуць таксама. Якая ім розніца, загінулі яны дзеля высокай мэты ці проста ні за што? Справядлівую вайну прыдумалі для суцяшэння.

Але самая страшная, спустошальная вайна — гэта тая, якая праходзіць на душах. Калі яна вырываецца на прастору, то носіць назву грамадзянскай. Ніхто не можа ў ёй перамагчы і яна часта цягнецца стагоддзямі. Французы дагэтуль не маюць адзінага погляду на сваю рэвалюцыю, а прайшло больш двухсот гадоў.

Для нас грамадзянская вайна працягваецца, прымірэння і згоды не прадбачыцца. «Попел Клааса» ўсё яшчэ стукае ў сэрцах. «Чырвоныя» ненавідзяць «белых» і наадварот. Чым адрозніваецца нянавісць сённяшняга маргінала да багатых ад нянавісці такога ж маргінала ўзору 17-га года? Нічым.

Усё можна растлумачыць, і гэта таксама: занадта многа крыві было з абодвух бакоў. Кроў нараджае кроў. Хаця байцы і самі забыліся на прычыны. Хто можа разумна растлумачыць, дзеля чаго былі знішчаны мільёны? Дзеля шчасця тых, хто застаўся жывы? А ці можа быць шчасцем тое, што пабудавана на крыві? Дый што пабудавана? Штосьці прынцыпова новае?

Бывае, Бог — па выразу Махатмы Гандзі — прыходзіць у выглядзе хлеба. Галоднаму здаецца, што адносная сытасць — рай. Тады ажывае марксізм. Працаваць па здольнасцях, атрымліваць па патрэбах. Потым зноў высвятліцца, што патрэбы растуць вельмі хутка, а здольнасці іх задавальняць — не. Дый хто можа вызначыць універсальны паказчык здольнасцяў? Чалавек — не можа, яго прырода суб'ектыўная. Ён не можа прапанаваць нічога больш разумнага, чым: няхай усё ідзе як ідзе. Гэта значыць — канкурэнцыя...

Але ці нам пра гэта гаварыць? Нам, якія дзеля таго, каб сусед таксама быў бедным, гатовы яго спаліць жывым? Дарэмна заклікаць нас пакінуць барыкады рэвалюцыі, як гэта зрабіла Святлана Алексіевіч. Мне сімпатычныя яе добры, рамантычны намер, але добрымі намерамі вымашчана дарога ў пекла. Гэта, на жаль, не пра нас. Майго сына барыкады ўжо не цікавяць. Яго дзеці мяне ўжо не зразумеюць. Нельга ваяваць бясконца, ваяваць так доўга, што губляецца сэнс ваенных дзеянняў.

Калі пачаць усё з самага біблейскага пачатку, то зноў бы высветлілася, што ёсць дурныя і разумныя, працавітыя і абібокі, здольныя і бяздарныя.

## V.

Што значыць чалавек у бясконцасці? На пытанне, пастаўленае Паскалем у XVII стагоддзі, адказу няма дагэтуль. Яно не састарэла, і адказу на яго, думаю, увогуле няма.

Скажам, калі бясконцасць ёсць, то асобнага чалавека няма: адзінка, падзеленая на бясконцасць, роўная нулю. Гэта цяжка ўявіць, бо вось я ёсць, думаю гэту думку, як жа так? Калі я ёсць, то няма бясконцасці? Ёсць і яна.

Тысячы людзей паўтаралі гэтыя разважанні і адказу не знаходзілі. Верагодна меркаваць, што не ўсё падуладна розуму, не ўсё можна растлумачыць рацыянальна, лагічна. Павінна быць, вышэйшая сіла, якая б надала сэнс усяму. Веруючыя людзі называюць яе Богам. Гэта універсальна, гэта супакойвае бунтарскую прыроду чалавечага розуму. Атэісты схільныя да радые, але яны змаглі растлумачыць такім чынам мікраскапічную частку таго, што нам невядома. Атэісты адмаўляюць існаванне Бога, але дагэтуль не растлумачылі прыроду нават электрамагнітнага поля. Навука разбурае літаральнае разуменне рэлігіі, аднак не можа пахіснуць вобразнасць метафараў, яна не можа растлумачыць негатыўнасць рэлігійнага ўспрымання свету...

Два-тры гады таму мода на веру, рэлігію здавалася мне штучнай і выклікала агіду. Сёння ўсё бачыцца больш глыбокім.

Ёсць падстава меркаваць, што нам бліжэй усё ж шкала агульначалавечых каштоўнасцяў, якія захоўвала ўвесь гэты андэграўндны час менавіта царква. «Маральны кодэкс будаўніка камунізму» быў, канешне, калькай з божых запаветаў, аднак нічога не гаварыў аб ратаванні душы. Камунізм быў мэтай туманнай, на практыцы — гвалтоўнай і крывавай.

Калі стала магчыма вярнуцца да традыцый — любові, міласэрнасці, узаемадапамогі, абароны слабага і інш. — мы зрабілі гэта без разважанняў. Гэта даказвае: мы зусім не быдла, не статак, мы не лянівыя і не дурнейшыя за іншых. Наша душа раскрыта насустрач добраму. А гэта галоўнае.

Хвораму стала лепш. Але, хвароба была надзвычай цяжкая, і працэс выздараўлення зацягнуўся.

## VI.

Прынята лічыць, што наш час не вельмі прыстасаваны для людзей з маральнымі прынцыпамі. Лічыцца, што сёння шмат спакусаў. Саступіць падонку, не назваць злодзея злодзеем, хлусню — хлуснёй, не заўважаць, прамаўчаць і тым самым купіць сабе варыянт ільготнага альбо проста спакойнага жыцця.

Тым не менш, я не магу сказаць, што наш час больш разбэшчаны, чым любы іншы. Справа толькі ў колькасці спакусаў, а задача застаецца ранейшай: не паддавацца ім, калі гэта супярэчыць маралі. Мы заўсёды стаім перад выбарам і пераважна гэтага не заўважаем. Выбіраем тое ці іншае згодна з закладзеным у нас.

Маральныя нормы захоўваюцца пры любым рэжыме. Калі чалавек мярзотнік сёння, то ён быў бы ім і дзве тысячы гадоў таму. Незразумела, чаму абвінавачваюць час. Калі людзі абагаўлялі Сталіна і даравалі яму ўсё, то гэта віна не толькі Сталіна і зусім не віна часу. Гэта якраз віна людзей.

Я згодзен — не ўкрадзі, не забі, не схлусі — гучыць банальна і выглядае танным маралізатарствам. Але ніхто не можа гэтага адмяніць. Ад нас патрабуецца адно: не забываць пра гэта і не цешыць сябе дарэмнымі надзеямі на тое, што «такі час». Кожны заплаціць сваю цану.

Старажытныя індыйцы прызнавалі тры ўсеагульныя каштоўнасці: архаліз (абавязак), артху (багацце, улада) і каму (асалода). Пасля Буды індуізм прызнаў яшчэ адну, вышэйшую каштоўнасць — мокшу (унутраная свабода духу, які дасягнуў злітнасці з божым цэлым). Дадаць да гэтага можна толькі адценні.

Свабодны дух — гранічнае, што можа дасягнуць чалавек і да чаго толькі і варта імкнуцца. Знікаюць улада, багацце, магчымасць асалоды — што застаецца? Чалавек з самім сабой. І вельмі часта ён не вытрымлівае цяжару пустаты.

Хаця, канешне, многія людзі не ўсведамлялі, не ўсведамляюць і не будуць усведамляць усяго гэтага ні цяпер, ні ў наступным стагоддзі. Як ім здаецца, яны выдатна пражывуць без метафізікі і іншых складаных рэчаў. Не падазраюць, што жывуць усё-такі згодна з імі.

## VII.

Карысна чытаць выказванні людзей рознай палітычнай арыентацыі і інтэлектуальнага развіцця пра беларусаў і іх сітуацыю, якая многім здаецца унікальнай. Інакш — такой, якой не было ніколі. Прашу прабачэння, але унікальным можа быць толькі жыццё канкрэтнага чалавека, усе астатняе — было.

Адны аб'яўляюць беларусаў новымі месіямі, другім беларусамі быць сорамна, трэція лічаць іх заходнімі рускімі, чацвёртыя — усходнімі палякамі і г.д. Тут няма праўды — і яна ўся тут ёсць. І яна нам гаворыць: мы — розныя.

Падобна на тое, што наша сённяшняя мітусня вынікае з нецярплівасці, моцнага жадання завяршыць блуканні, знайсці свой бераг. Безумоўна, вельмі хочацца ў вялікі свет, «у людзі», дзе ўсё па-сапраўднаму. Ніхто не задае натуральныя пытанні: ці чакаюць нас там? З чым мы туды прыйдзем? Што мы прад'явім?

Беларусь — «сінявокая» краіна балот, глухая еўрапейская правінцыя — можаце дадаць свае вызначэнні. І яна застаецца «рэччу ў сабе», пакуль большасць беларусаў будзе ў гэтым перакананні. Пакуль яны будуць лічыць, што нашы філосафы не такія разумныя, як рускія, нашы інжынеры не такія вынаходлівыя, як амерыканскія, нарэшце, наша мова не такая мілагучная, як італьянская.

Здавалася б, так элементарна: хочаш быць шчаслівым — будзь ім. Хочаш, каб цябе паважалі, — паважай сябе. Хочаш, каб любілі, — любі сябе.

І гэта ўсё, што я хачу пажадаць суайчыннікам за пяць хвілін да дванаццаці...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## КАЗЯРОГ варожыць над хатнім ачагом



***Думкі круцяцца вакол абуладкавання роднага дома. І ў першай палове года можа вырашыцца кватэрнае пытанне. Вы заклапочаны працэсам закладкі трывалага падмурка ў асабістым жыцці, хоць і давядзецца прайсці праз выпрабаванні, асабліва ўлетку будучага года. Можна быць гатовым да з'яўлення старога кахання. Трэба быць гранічна чыстым перад законам, інакш жнівень прынясе вялікія праблемы. Удзяліце шмат увагі дзецям, каханаму чалавеку. Не забывайцеся на творчасць. Калі вы як след папрацуеце на гэтай ніве, дык у далейшым вас чакае безумоўны поспех, як у казы.***



**Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне дэпутату Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Астапчанку Юрыю Леанідавічу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю МАЦІ.**

## ВАДАЛЕЙ ловіць спадарожны вецер



**У першай палове года вы проста плывяце пад лёгкім ветразем спадарожнага ветру ў многіх пачынаннях. Прапановы ад блізкіх сваякоў, знаёмых вабяць за мяжу. Мноства клопатаў і непрыемных перажыванняў у родным доме ўлетку, аднак вынік будзе бачны пазней, і ён можа быць не такі несуцяшальны, як вам здаецца. Ад вас спатрэбіцца максімальны клопат аб самых блізкіх людзях у жніўні. У гэты перыяд трэба пазбягаць сутычак у натоўпе, уважліва абыходзіцца з колючымі і рэжучымі прадметамі. У час адпачынку незадаволенасць прафесійнымі вынікамі вядзе да пераацэнкі сфер дзейнасці. Могуць прачнуцца звышздольнасці. І на забывайце — на парозе эра Вадалея.**



Павел БУРЭ:

## «РУСКАЯ РАКЕТА» са стартавай пляцоўкай у Беларусі

Расійскі хакеіст Павел Бурэ за 7 гадоў выступлення ў Нацыянальнай хакейнай лізе (за канадскі «Ванкувер») паспеў стаць легендай і кумірам многіх хлапчукоў на прасторах былога Саюза, якія толькі-толькі навучыліся трымаць клюшку. Нездарма паўночнаамерыканцы ахрысцілі Пашу «Рускай ракетай».

Нядаўна Бурэ, які пакуль з'яўляецца «беспрацоўным», на пару з былым начальнікам аховы расійскага прэзідэнта Аляксандрам Каржаковым наведаў з трохдзённым візітам беларускую сталіцу. Аказваецца, што карані сямейнага дрэва Бурэ вядуць у Беларусь.

У Мінску жыве яго бабуля па мамінай лініі. Так што беларускія хакейныя балельшчыкі на поўным сур'ёзе могуць лічыць «Рускую ракету» сваім, родным.

Жыццёвы дэвіз Паўла Бурэ: «Важна не тое, што здарылася, а тое, як ты на гэта рэагуеш».



*— ЗА ЗДАРОЎЕ! НЕЗДАРМА Ж КАЖУЦЬ, ШТО АДЗІН ГРАМ ЗДАРОЎЯ ДАРАЖЭЙ КІЛАГРАМА ЗОЛАТА.*

## Выстава дасягненняў «сяброўскага» майстэрства

**Неверагодна, але ў 1998 годзе Анатоль Ярмоленка жыў быццам за чацвярых**



У дзядулі Анатоля Ярмоленкі ў адыходзячым годзе здарылася радасная падзея — пайшла ўнучка. Канешне, такія «здарэнні» хутчэй з разраду планавых. Але ў вачах знакамітага дзядулі гэта не інакш, як гістарычны крок.

Вось і дачка Алеся пачынала так. Як пайшла, як пайшла... Цяпер Ярмоленка-бацька гледзячы на яе адчувае гонар. Вось як было, напрыклад, на першых сольных канцэртах дачкі, якія адбыліся ў Лідзе напрыканцы года. Адна справа — стаяць побач з ёю на сцэне, і зусім іншая — паглядзець на маладую спявачку збоку. Вядома, з хваляваннем.

Хвалявацца Анатолю Іванавічу, як галаве сямейства, давялося нямала, асабліва падчас гастроляў у Польшчы, калі адбыўся напад на яго жонку. Скончылася ўсё добра, прынамсі для нашых артыстаў. А ўдзельнікі гэтай сітуацыі з іншага боку чакаюць яе працягу ў будучым годзе, калі завершыцца следства.

Вынікам жа дзейнасці Ярмоленкі — творчага чалавека стаў выхад групы беларускіх артыстаў падчас «Сустрэчы на рынгу» ў «Інтэрнэт». У нашай краіне гэта ўсё роўна што выхад у адкрыты космас.

«У студыі ёсць свая старонка ў «Інтэрнэце». Але перамога над камандай Украіны, — кажа Анатоль Іванавіч, — даказала, што Беларусі ёсць чым ганарыцца».

Заваяваны на рынгу прыз — нота — знахоўваецца ў своеасаблівым музеі студыі «Сябры». Магчыма, мы хутка даведаемся, якія яшчэ экспанаты захоўваюцца ў гэтым музеі, бо прыйшоў час зрабіць своеасаблівую выставу дасягненняў: у наступным годзе студыі «Сябры» споўніцца 25.

Уладзімір САМСОНАЎ:

## «У асабістым жыцці ніякіх перамен»



Першая ракетка свету па настольнаму тэнісу Уладзімір Самсонаў дома настолькі рэдкі госць, што нават на навагоднія святы рэдка калі з'яўляецца ў Мінску. Па словах бацькоў і прэзідэнта Беларускай федэрацыі настольнага тэнісу Віктара Шалюкевіча, дарэчы, дырэктара агенцтва нерухомасці «Дзінос», які і з'яўляецца крыніцай праўдзівай і эксклюзіўнай інфармацыі для імя Валодзі, Самсонаў ужо гадоў пяць не бачыў калядную ёлку, не сядзеў у цесным сяброўскім коле.

У асабістым жыцці майстра пін-понга асаблівых перамен няма. Па-ранейшаму халасцяк, вучыцца на III курсе Беларускай акадэміі фізвыхавання і спорту, выступае за нямецкі клуб «Барусія» (Дзюсельдорф). У свае 22 гады поўнасцю аддае сябе рабоце.

Хоць Самсонаў і з'яўляецца вельмі арганізаваным чалавекам і практычна не падвергнуты ніякім ваганням лёсу, але ўсё ж такі бываюць кур'ёзы і ў яго жыццёвай кар'еры. Апошні з іх здарыўся на нядаўнім міжнародным кваліфікацыйным матчы Беларусь — Славенія. Валодзя ў Мінску ўмудрыўся прайграць славацкаму «настольніку» Сашу Іванавічу, які нават не ўваходзіць у першую сотню.

Але ж спорт — рэч непрадказальная. І тут ніхто не застрахаваны ад розных нечаканасцяў.

Цяпер Самсонаў рыхтуецца паспяхова выступіць на чэмпіянаце свету, які пачнецца ў канцы красавіка ў Бялградзе (Югаславія). А галоўная яго мэта на бліжэйшы час — Алімпійскія гульні-2000 у Сіднеі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## Жаданні для зоркі

Іна Афанасьева проста прыцягвае да сябе розныя кур'ёзныя выпадкі. Большасць такіх гісторый у яе звязана з адстойваннем сваіх правоў як спявачкі. Бо абавязкі свае Іна ведае і выконвае: заўсёды своечасова паспявае на канцэртныя пляцоўкі і публіку не падводзіць. Каб вы толькі ведалі, як гэта ўсё даецца.

Аднойчы Іна Афанасьева прыйшла на канцэрт выступаць, натуральна, а малады чалавек з бэджыкам «Сек'юрыці» перагарадзіў ёй дарогу і нічога слухаць не хацеў. Выпхнуў за дзверы і не пускаў на канцэрт, дзе ёй трэба было спяваць. Вось такія сур'ёзныя ў нас канцэрты, і такая важная ў іх ахова.

«Напэўна ёсць у маім твары нешта насцярожваючае, — кажа Іна, — бо як яшчэ растлумачыць, што менавіта я трапляю ў такія сітуацыі? І гэта пры тым, што ў мяне звычайна ёсць пропускі на розныя святы, канцэрты. Зорка не зорка, але каб не паверылі паперцы?..»

Адна з загадак для Іны заключаецца ў тым, якімі шляхамі ўсё ж такі прабіраецца на пляцоўку. Але можна не ламаць галаву над яе вырашэннем, бо лепшы пропуск спявачкі — яе голас.



Дзякуючы яму Іна Афанасьева ўсё ж такі не сядзіць без канцэртаў, у 1998 годзе ёй давялося пабываць на гастролях не толькі ў Беларусі. Але сур'ёзным дасягненнем у мінулым годзе можна лічыць пачатак супрацоўніцтва з «ГРТ-рэкардз». У адзін са зборнікаў, выпушчаных гэтай кампаніяй, увайшла песня Афанасьевай «Маміна дачка».

Вось так, крок за крокам, дасягненне за дасягненнем — і, магчыма, дабярэцца Іна да ажыццяўлення сваёй запаветнай мары — зрабіць добрую вялікую праграму. А пакуль застаецца толькі загадваць жаданні...

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

*— КАБ ЧАЛАВЕК У ЧАЛАВЕКУ БАЧЫЎ ЧАЛАВЕКА, НЕЗАЛЕЖНА АД ЗНАКАЎ «ЖЫВЁЛЬНАЙ» ПРЫНАЛЕЖНАСЦІ!*

*Спартыўная «зорка» года*




Яўгенія ПАЎЛІНА:

## «За навагоднім сталом я як «пыласос» —ем усё, што можна есці»

**Для абаяльнай беларускай гімнасткі-«мастачкі» Жэні Паўлінай мінулы год быў сапраўдным выпрабаваннем характару. З аднаго боку — непераадольнае жаданне пакінуць вялікі спорт, з другога — поспехі на спартыўных памостах свету. І зноў-такі прызнанне лепшай спартсменкай Беларусі 1998 году...**

***— Жэня, гэта нічога, што я патурбаваў вас у дзесяць гадзін вечара? — пачаў я нашу гутарку з апраўдання. — Заўтра, наколькі вядома, вы едзеце ў Маскву адзначаць з сябрамі Новы год...***

— Ды не, усё нармальна, для мяне гэта ранні час. Я заўсёды з трэніровак каля дзесяці вяртаюся. Такое ўжо ў нас, у гімнастак, нялёгкае жыццё.

***— «Золата» гэтага чэмпіянату Еўропы вам таксама нялёгка давалася?***

— Сказаць так — значыць не сказаць нічога. Сёння, пракручваючы моманты свайго выступлення, я здзіўляюся, як здолела вытрымаць нагрузкі таго чэмпіянату.

***— Увогуле, чаго было больш для вас у адыходзячым годзе — добрага ці благога?***

— Добрага, вядома. Лічу, няблага выступіла. Дзякуючы намаганням прэзідэнта Саюза спартсменаў Беларусі Марыі Лявонцьеўны Іткінай, здаецца, ужо вырашана маё кватэрнае пытанне, і недзе праз месяц я павінна займець свой уласны куток... Праўда, дрэннага таксама быў воз і маленькі вазок. І самым непрыемным момантам мінулага года было для мяне пытанне: сыходзіць ці не з вялікага спорту. Сколькі слёз за гэты час праліла, словамі не перадаць.

***— Апатыя, уласныя праблемы, канфлікты з трэнерамі?..***

— Хутчэй, апатыя. Мне надакучыла трэніравацца, выступаць, штодзённа сыходзіць з дому ў 7 гадзін раніцы і вяртацца назад у дзесяць вечара. Разумееце, бываюць такія моманты ў жыцці чалавека, калі хочацца на ўсё плюнуць і пажыць спакойна. Праўда, пасля падумала і вырашыла, што не маю маральнага права на такі крок.

***— А, скажам, калі ўсё ж такі вырашылі б пакінуць гімнастычны памост?..***

— Калі б вырашыла... Ёсць жаданне паступіць у эканамічна-гуманітарны універсітэт, аднак праблема ў тым, што спартсмены ім не патрэбны, а плаціць па тысячы долараў у месяц я проста не здолела б. А па вялікаму рахунку, я заўсёды хацела быць журналісткай. Гэта мара майго жыцця — аб гэтым я пісала ва ўсіх сваіх школьных сачыненнях.

***— Такім чынам, я гутару з маім патэнцыяльным калегам...***

— Не ведаю, не ведаю... Як лёс складзецца.

***— Вы верыце ў лёс, у нейкія прыметы?***

— Я веру ў добрыя прыметы. Напрыклад, не люблю выступаць у новых купальніках і, калі ідуць спаборніцтвы ў многабор'і, абавязкова выберу сабе стары правераны «баямі» купальнік.

***— Сустракаць Новы год з сяброўкамі-гімнасткамі ў Маскве — таксама ваша нейкая своеасаблівая прымета?***

— Якраз такі і не, бо раней Новы год я сустракала крыху сумнавата — з бацькамі і старэйшымі сёстрамі. А, пагадзіцеся, хочацца ж весела правесці свята ў кампаніі сваіх сябровак.

***— Патанцаваць, выпіць добрага віна...***

— Толькі віна. Ці шампанскага.

***— А як наконт фірменнай стравы?***

— Ой, ведаеце, я як «пыласос» — ем усё, што стаіць на стале. Праўда, вельмі люблю сыр, але гэта зараз такі дэфіцыт...

***— Жэня, а як жа дыета гімнастак?***

— Асабіста для мяне не «наесціся ад пуза» — гэта своеасаблівы грэх.

***— Ну а для нас своеасаблівым грахом будзе не павіншаваць вас з Новым годам. Будзем спадзявацца, шчаслівым для Яўгеніі Паўлінай. Поспехаў!***

**Алесь СІВЫ.**

Экстрэмальная сітуацыя

## Тысячы грамадзян Беларусі штогод трапляюць у бяду за мяжой



— З любімымі не разлучайцеся!

...элементарнай неасцярожнасці, наіўных спадзяванняў танна набыць амаль новую іншамарку, без асаблівых турбот зарабіць вялікія грошы і да т. п.

Але ў дадзенай сітуацыі прычыны гэтыя — справа другарадная. Для ахвяры абставінаў (ці прайдзісветаў) цяпер, калі ён распавядае беларускаму дыпламату ці консулу пра свае сумныя прыгоды, задача № 1 — як мага хутчэй зноў апынуцца ў сваёй краіне, у звыклай хатняй абстаноўцы, забыць, як страшны сон, перажытае.

Той жа праблемай не ў меншай ступені заклапочаны і супрацоўнікі дыпламатычнага прадстаўніцтва, консульства. Іх прамы абавязак — максімальна дапамагчы грамадзяніну Беларусі, які трапіў у экстрэмальную сітуацыю. Праўда, здараецца, што гэта спрабуюць выкарыстаць у сваіх мэтах асобы з авантурыстычным складам характару, якія не супраць падарожнічаць за чужы кошт. Тым больш, што атрыманне шэнгенскай візы адчыняе дзверы ў шэраг еўрапейскіх краін. Білет гэткі шукальнік прыгод купляе ў адзін бок, а калі заканчваюцца грошы, з кіслым тварам грукае ў дзверы пасольства, маўляў, дапамажыце купіць білет на радзіму. Падобных тыпаў у нашых прадстаўніцтвах ужо навучыліся распазнаваць, бо дзейнічаюць яны хаця і нахабна, але ў многім аднолькава. І вельмі часта пасля грунтоўнай размовы «ахвяра» рэдка зноў наведвае пасольства, бо ў яе раптам знаходзяцца грошы на білет.

Паводле даных Консульскага ўпраўлення Міністэрства замежных спраў, летась у замежныя дыпламатычныя і консульскія ўстановы Беларусі па дапамогу звярнуліся 6223 грамадзяніны нашай дзяржавы. Прыкладна такая ж колькасць людзей з Беларусі зноў прыйшлі ў яе дыппрадстаўніцтвы з аднолькавай бядой і просьбай: «укралі (ці згубіў) пашпарт, грошы. Ці нечым напаілі, потым некуды зацягнулі, збілі, абрабавалі, дапамажыце вярнуцца дамоў». Толькі ў консульскі аддзел пасольства Беларусі ў Варшаве сёлета каля тысячы пацярпелых звярнуліся з падобнай заявай.

Пры больш-менш уважлівым вывучэнні абставінаў, якія давялі нашага суайчынніка (ці суайчынніцу) да стрэсавай сітуацыі, да страты дакументаў, сродкаў да існавання, асабістых рэчаў, а часам нават і здароўя, нярэдка высвятляецца, што небарака апынуўся ў вельмі непрыемнай гісторыі ў выніку даверлівасці,

Леанід ЛАХМАНЕНКА.

*(Падрабязнасці пра гэта чытайце у наступным нумары «Звязды» за 1999 год)*

## РЫБЫ атрымаюць рог дастатку і гатовыя да нападу



***Усе вароты свету адкрытыя перад вамі ў першай палове года, з'яўляецца рог дастатку. Магчыма, змена работы станоўча адаб'ецца на стане дамашняга бюджэту. А вось улетку ў цэнтры ўвагі — спрэчкі сваякоў, і вас могуць паспрабаваць абылгаць. Прычым не трэба спадзявацца на тое, што сваяцкія сувязі ўсё спішуць. У канцы ліпеня-жніўні камандзіроўкі, рэклама, паездкі і перагаворы праходзяць у вельмі напружанай атмасферы і могуць значна знізіць жыццёвы тонус. Спадзявайцеся на дапамогу здалёк, у тым ліку і фінансавую, поспех за мяжой у другой палове года. Нягледзячы на некаторыя перыяды дэпрэсіі і няўпэўненасці, вы ўдала ўвойдзеце ў наступны век.***



# З Новым годам, «хрэснік»!

***Сярод шматлікіх бурных падзей года, які дажывае зараз свае апошнія гадзіны, гэта магла падацца некаму зусім нязначнай. Але толькі не нам, «звяздоўцам», і, спадзяёмся, нашым пастаянным чытачам. Сёлета, упершыню за восемдзесят з лішкам гадоў жыцця, «бабуля» «Звязда» спахапілася, прыхарашылася і... займела сабе «хрэсніка». Ды якога! Хлопчык нарадзіўся роўна за тысячу дзён да наступлення новага тысячагоддзя (да 1 студзеня 2001 года). «Хросная маці» ўзяла малога пад сваю апеку і, як абяцала, працягвае сачыць за тым, як ён гадуецца.***

З ранейшых рэпартажаў нашы чытачы ўжо даведаліся шмат падрабязнасцяў пра «хрэсніка» — пачынаючы ад яго вагі пры з'яўленні на свет і заканчваючы імёнамі яго хросных бацькоў («Звязда» тут трэцяя, ганаровая кума). І, канешне ж, мы не маглі пакінуць нашага Аляксея без увагі напярэдадні першага ў яго жыцці Новага года.

Што пісаць пра Алёшу Лікія ў перадсвяточным «гараскопным» нумары буду я, прадвызначылі самі зоркі. Мы са звяздоўскім «хрэснікам» па гараскопу — поўныя «цёзкі». Мала таго, што пад адным знакам задыяка — Авена, нарадзіліся, дык яшчэ і ў адзін год — Тыгра (з розніцай, праўда, у 24 гады). Таму ішла ў адведкі са «звяздоўскім» падарункам з цікавасцю і нават нейкім хваляваннем. Хоць і не веру надта тым гараскопам, але ўжо верагодная перспектыва пабачыць, якой сама была па натуры і паводзінах у восем з паловай месяцаў, вельмі інтрыгавала.

«О, ён ужо цяпер свой упарты «авенскі» характар праяўляе, — зазначыла Юля, маці героя, — толькі каб па-ягонаму было, і ўсё тут». Сам герой тым часам засяроджана разглядаў і спрабаваў на зуб (а зубоў у яго ажно два) мой гадзіннік, які давялося зняць з рукі, — так настойліва ён патрабаваў новую цацку. Праўда, атрымаўшы жаданае, ад далейшага кантакту спадар Аляксей адмовіўся, і забавіць яго да сябе на рукі мне так і не ўдалося. Я асабліва і не настойвала: мы, Авены, сапраўды робім толькі тое, што хочам, і пераканаць нас у адваротным вельмі цяжка. Як выявілася, нават у васьмімесячным узросце.

Наш «хрэснік» ужо стараецца праяўляць самастойнасць. Па кватэры ён даволі жвава перамяшчаецца ў хадунках. Нягледзячы на тое, што ў хаце амаль заўсёды тры нянькі — мама і дзве бабулі (Юліны маці і цётка), Лёша нярэдка займае сябе сам з якой-небудзь цацкай і вельмі не любіць, калі яму перашкаджаюць. Але, як сапраўдны мужчына, да жаночага полу ставіцца з асаблівай пяшчотай: вельмі любіць ласку, калі мама ці бабуля цалуюць у шчочку, заплюшчвае вочы ад асалоды. «Насця, сястрычка яго старэйшая, зусім не такая ласкавая была», — успамінае Лёшкава бабка.

Магчыма, з хлопца праз колькі гадоў выйдзе міліцыянер (як бацька Сяргей) ці журналіст: ён ужо цяпер паважае экстрэмальныя сітуацыі — каб ён заснуў, каляску трэба расхістаць з усёй моцы, толькі тады ён заспакоена засапе. Галоўных людзей у сваім жыцці Лёшка ўжо можа сам паклікаць: і тату, і маму, і бабу. А вось двухгадовую Настачку яшчэ не: цяжкае яе імя для вымаўлення...

У іхняй кватэры дзве «зоркі». Канешне ж, Лёшка, які ўжо з першых гадзін нараджэння красаваўся на першай старонцы «Звязды» і... нямецкая аўчарка па мянушцы Віджай. Раней Сяргей некалькі разоў браў яе на здымкі тэлевізійных сюжэтаў крымінальнай хронікі ў якасці дублёра замест не заўсёды такіх прыгожых і вялікіх, як яна, службовых сабак. Але «зоркі», жывучы пад адным дахам, зусім, насуперак завядзёнцы, не канфліктуюць. Толькі зрэдку пазіраюць адно на аднаго з узаемапавагай...

Свой першы ў жыцці Новы год наш «хрэснік» будзе сустракаць дома, з усёй сям'ёй. Праўда, ёсць у яго яшчэ дзед і бабуля (Сяргеевы маці і бацька), але яны дзесьці за тысячы кіламетраў, у далёкай Малдове. Алёшка іх ніколі не бачыў, гэтак сама як і Насця: няма матэрыяльных магчымасцяў ні дзеду з бабкай прыехаць у Мінск, ні маладым з дзецьмі з'ездзіць туды, у невялікі гарадок Беліца. «Адзін раз завёз мяне, паказаў, каго ў жонкі ўзяў, дый хопіць», — жартуе Юля. Жарты жартамі, а нягледзячы на ўсе цяжкасці, яны ўсё-ткі збіраюцца летам паехаць у Малдову. Трэба ж, каб бацькі паглядзелі на ўнукаў, якіх ведаюць толькі па фатаграфіях.

Пакуль Юля варыла нашаму герою вячэру (кашу айчыннай вытворчасці, якая зараз вялікі дэфіцыт і якую Сяргей, на радасць жонцы, атрымаў на працы па спісах), разгаварыліся з ёю пра жыццё. Здзівіў аптымізм гэтай жанчыны, такі нехарактэрны для нашага часу. Хаця, здавалася б адкуль ён: двое малых дзетак на руках, адна мужава зарплата, ніякай радні ў вёсцы — усё, нават бульбу купляць даводзіцца. «Мне б хатку ў вёсцы, — вочы Юліны летуценна загараюцца. — Я б курэй там развяла, агародзік пасадзіла...» Спачатку падумалася, што яна, карэнная гараджанка, жартуе. А потым убачыла: не, не жартуе. Калі б сапраўды якая хатка — каля яе б ніводны лапічак зямлі не пуставаў. Галоўнае — не сядзець, не стагнаць, як цяжка, склаўшы рукі, — і тады дзеці ніколі галоднымі і раздзетымі не будуць. Ужо сёлета, нарадзіўшы Лёшку, Юля спрабавала заняцца бізнесам, каб неяк падмацаваць сямейны бюджэт. Адкрыла ў сябе ва Уруччы гандлёвую палатку, прадавала дзіцячае адзенне. За таварам ездзіла ў Гродна. «І ўсё атрымлівалася. Калі моцна захацець — што заўгодна атрымаецца». Але кінула: не магла надоўга сябе ад малых адрываць.

І яна зусім не шкадуе, што нарадзіла Лёшку, другое дзіця, у такі нялёгкі час. «Хаця думалі: дзе адно, там і двое будуць гадавацца, — аказалася, не так проста. Але нічога, — выгадуем». «Свая ноша — яна не цяжкая», — падхоплівае Юліна маці. Яна з унукаў наогул нацешыцца не можа, асабліва з малодшага. Ды і дапамагае бабуля маладой сям'і даволі значна, хоць на пенсіі, а працуе ў ветэрынарнай фірме, нейкую дадатковую капейчыну атрымлівае.

Калі я адыходзіла, наш «хрэснік», як і належыць адзінаму (Сяргей быў на дзяжурстве) мужчыну ў такім жаночым кагале, мірна спаў у сваёй калысцы. Авохці мне, так і не ўдалося патрымаць гэта маленькае, але ўпартае стварэнне на руках. Што ж, цвёрдасць пазіцыі і прынцыповасць — ці не найлепшыя вызначальныя рысы падапечнага «Звязды».

Затое ўпэўнілася ў галоўным: у Алёшы Лікія, гэтак жа як і ў яго сястры, будзе сапраўдны Новы год. З ёлкай, падарункамі і любячымі вачыма і шчырымі ўсмешкамі дарослых.

І няма ніякіх сумненняў, што свой першы ў жыцці Новы год ён, нягледзячы на малы ўзрост, не праспіць: апоўначы бацькі абавязкова разбудзяць яго хоць на хвілінку. Каб і ён, маленькі чалавек, адчуў у тое імгненне іх шчасце, іх трывогі, іх надзею.

Бо на тое ж і Новы год, каб была надзея.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

*— Няхай надыходзячы год стане для ўсіх нас годам здароўя, шматлікіх сонечных дзён, спакою, любові і, галоўнае, — упэўненасці ў заўтрашнім дні.*



## АВЕН скарае вяршыні

***Складаны год, але для амбіцыйных, актыўных людзей будзе знойдзены шлях на самую вяршыню і дзелавых дасягненняў, і асабістага шчасця. Не выключана, што дзверы самых высокіх кабінетаў расчыняцца перад вамі. Вы можаце зрабіць удалае падарожжа ў першай палове года. Варта прыглядваць за сваёй маёмасцю, фінансавым становішчам у сакавіку і асабліва ў жніўні. Вам трэба будзе балансаваць паміж шлюбам і вышэйстаячымі інстанцыямі ў канцы мая—пачатку чэрвеня. Не трэба намячаць важныя мерапрыемствы і аперацыі на жнівень — катастрафічны час. Добрых змен трэба чакаць увосень, бо могуць ажыццявіцца самыя славалюбівыя задумы.***

## Чым займаюцца людзі, калі не спяць?! Правільна! Сустракаюць Новы год! Сёння, у ноч з 31 снежня на 1 студзеня, зоймемся гэтым і мы

***Вядома, што ў кожнага народа ёсць свае традыцыі, свае звычаі, якія робяць гэта свята весялейшым, больш радасным і шчырым. Тыя чытачы, хто не адзін год выпісвае «Звязду», а такіх, дзякуй Богу, большасць, памятаюць, што наша газета шмат пісала пра навагоднія традыцыі, якія захоўваюцца ў Беларусі. Таму сёння мы вырашылі расказаць вам, як сустракаюць новы год у іншых краінах. Магчыма, штосьці скарыстаеце, калі задумаеце зрабіць гэта свята арыгінальным і запамінальным.***

Але, спадзяёмся, вы не зробіце так, як гэта ўмеюць **італьянцы,** якія выкідваюць з вокнаў мэблю: наша эканамічнае становішча значна горшае. Да таго ж шкада прахожых, якія акажуцца ў гэты час пад вашымі вокнамі ці балконамі...

Да нашых умоў, мяркуем, бліжэй **японская** традыцыя — там у новым годзе «пачынаюць жыццё з чыстага ліста». Мы зыходзім з таго, што ў дадзеным выпадку можна лёгка выкарыстаць тыя ж чыгунныя колы, якія ў нас апошнім часам (не ад добрага жыцця таксама) з'явіліся ў цэнтры амаль кожнай вёскі, кожнага мястэчка. Справа ў тым, што ў Японіі ў навагоднюю ноч усе гарады і пасёлкі напаўняюцца перазвонам. Па званах б'юць бервяном, якое падвешваюць на канатах. Б'юць 108 разоў! Чаму? Вядома ж, гэта лічба не выпадковая. Японцы лічаць, што ў чалавека шэсць асноўных заган: сквапнасць, прагнасць, глупства, злосць, нерашучасць і лёгкадумнасць. Кожны з гэтых недахопаў мае 18 адценняў. У час перазвону, перакананы японцы, адбываецца паступовае ачышчэнне ад іх. Зразумелі? Выкарыстайце японскую традыцыю, выганіце з вёскі, са свайго двара, хаты, са сваёй душы ўсе тыя заганы, якія назбіраліся за адыходзячы год. Пачніце новы з чыстага ліста. І калі вы будзеце больш адказнымі, у першую чаргу перад самім сабой, то і надыходзячы год будзе больш прыхільным да вас.

Шмат снегу наваліла сёлета — добры знак для будучага ўраджаю. Праўда, гэта вялікая перашкода для тых, хто хацеў бы скарыстаць вядомую традыцыю **Камбоджы.** У гэтай краіне за некалькі дзён да Новага года ў гарадах і вёсках з'яўляецца незлічонае мноства невялікіх пагорачкаў з пяску. Згодна з мясцовымі павер'ямі, усялякая пясчынка, з якой складаецца пагорачак, азначае прабачэнне аднаго дрэннага ўчынку. Таму, насыпаючы пагорачкі, людзі імкнуцца ўвайсці ў новы год добрымі, светлымі, чыстымі, пазбаўленымі грахоў.

А вось **фіны,** каб змыць усё адмоўнае адыходзячага года, напярэдадні новага ўсёй сям'ёй мыюцца ў лазні. Затым яны павінны сесці за навагодні стол не менш дзевяці разоў. Лічыцца, што чым больш будзе есці гаспадар дома, тым больш старанна ў новым годзе ён будзе працаваць.

**ПАДАРУНКІ ПАД ЁЛКАЙ...**

У навагоднюю ноч усе мы, пагадзіцеся, становімся ў нейкай ступені дзецьмі. Здаецца гэта натуральным: усё лепшае, шчырае робіцца ў дзіцячым узросце. Ці не таму, мабыць, такімі жаданымі і чаканымі для кожнага з нас з'яўляюцца падарункі, якія мы шукаем абавязкова пад навагодняй ёлкай. Але... Ёсць рэчы, якія, згодна з народнымі традыцыямі, дарыць нельга. У Кітаі, напрыклад, сімвалам няшчасця лічацца падораныя гадзіннікі, а ў некаторых краінах Лацінскай Амерыкі — насоўкі. У арабскіх краінах дрэнная прымета рабіць падарункі гаспадыні дома, а таксама... (увага!) прыносіць з сабой спіртныя напоі. І яшчэ пра адну традыцыю, якая існуе на Блізкім Усходзе, варта расказаць. Яна якраз раскрывае сакрэт таго, чаму ў навагоднюю ноч такімі шчодрымі бываюць менавіта госці, дарачы гаспадару дарагія рэчы. Усё вельмі проста: свае затраты яны могуць лёгка кампенсаваць, пахваліўшы якісьці прадмет у доме гаспадара. Традыцыя патрабуе тут жа падарыць яго госцю. Уяўляеце, што можна забраць, маючы добры язык, прагныя вочы і пры гэтым паважлівага і добра выхаванага гаспадара. Такіх гасцей мы вам не жадаем!

## ...ДАБРЫНІ!



*— Жадаю ўсім бацькам вучыцца на «добра» і «выдатна», дзецям — трымацца і любіць сваіх бацькоў гэткімі, якія яны ёсць, спонсарам жадаю знайсці свой дзіцячы дом, а ўладзе — добрага разумення ўнтарэсаў свайго народа.*

# Аддайце мяне ў дзіцячы дом

**Напярэдадні 1999 года я трапіла ў дзіцячы дом. Не ў час. Бо і тут перадсвяточная мітусня. Дырэктар лічыць зарплату. Пісьменнікі звоняць. Студэнты педагагічнага вучылішча прыехалі. Выхавацелькі развучваюць з дзецьмі песні і вершы. «Не разумею, чаму ўсе хочуць прыйсці да нас менавіта ў апошнія дні года? — засмучаецца дырэктар. — Прыйшлі б на канікулах...» Яна мае на ўвазе не толькі журналістку «Звязды».**

Сапраўднае ўражанне выклікае поўную змену нейкіх тваіх уласных правілаў, светапогляду, ламае нешта звыклае і чаканае. Так здарылася са мной у дзіцячым доме. Я чакала ўбачыць сірот, няшчасных, пры выглядзе якіх міжволі па шчацэ скочваецца сляза і шчыміць сэрца ў балючым спачуванні. Калі стэарэтыпы глыбока ўеліся ў нутро, пазбаўляешся ад іх не адразу — шкада. Мне спатрэбілася шмат часу, каб здагадацца: у дзетдоме дзецям лепш, чым у нашым дардоме, гэта значыць у дарослым.

Паспрабую растлумачыць. Колькі гадзін за дзень мы прысвячаем сваім захрыбетнікам? Паміж працай, мыццём, гатаваннем, прыбіраннем, тэлефоннай размовай, транспартна-крамавымі пакутамі, што яшчэ? А! Святое: «Дайце мне, у рэшце рэшт, спакойна паглядзець гэту перадачу!..»

У дзіцячым доме выхавацелька працуе з дзецьмі сем гадзін запар. Потым другая выхавацелька яшчэ сем гадзін. На ноч з імі застаецца няня — тая працуе суткамі. Скажыце, яны працуюць, а мы любім. Але любоў ці не праца? Яны з імі малююць, лепяць, круцяць абруч, спяваюць песні, вучаць чытаць і пісаць. І разам з тым лашчаць, суцяшаюць, адцягваюць ад цяжкіх думак, адказваюць на ўсе пытанні. А мы вучым сваіх дзяцей не перашкаджаць, не перабіваць, не лезці, не чапаць, не крычаць. Даць нам пажыць.

Вераніка так мне і казала: «Тут мне падабаецца больш, чым дома». Чаму, пытаю. «Ну, тут сукенкі прыгожыя, святы вясёлыя, пакойчыкі ўтульныя, Таццяна Дзмітрыеўна добрая».

Вераніцы дзесяць, мы сустрэліся на двары дзіцячага дома № 2 па вуліцы Калінoўскага ў Мінску. Дзеці каталіся на каньках, лыжах, санках, рагаталі, ружавашчокія, у трусіных футрачках, усе такія прыгожыя. Падскочыла дзяўчынка Даша: «А мне тут не падабаецца! Дома лепш. Мяне хутка забяруць адсюль назаўсёды». Пытаюся зноў, чаму дома лепш. Не можа адказаць. Яна на чатыры гады меншая за Вераніку, можа проста яшчэ не разумее. Вунь і 4-гадовы Дзяніс скажа мне потым, што дома лепш, што ў бацькі і маці ёсць машына. Паліцэйская. А чаму лепш, не растлумачыць — малы.

На каньках Вераніка навучылася катацца яшчэ дома. Тут яна ўжо год. Чаму трапіла сюды? «Тата памёр у турме. Шаснаццатага снежня. Не, у мінулым годзе. Маці спачатку не верыла, потым цыганка ёй казала: забілі. Напэўна, за грошы. А мама? Яна тут, працуе». Вераніка трошкі замялася, я заглушыла ў сябе ўнутраны пратэст (пакінь дзіця ў спакоі, не лезь у душу!) і зноў спытала: «А маці што ж, дзе працуе?» — «Яна гарэлку п'е». Здаецца, лёгка адказала Вераніка, але ж не адразу. Не адразу. Пра бацьку ёй гаварыць было лягчэй. Дашка зноў падлезла, расчырванелася, наперадзе зубоў няма, вочкі блішчаць: «А ў мяне маці забіла кагосьці, яе ў турму пасадзілі! Да мяне прыходзяць цётка і бабуля. Наведваюць».

Дзевяноста працэнтаў сённяшніх жыхароў дзіцячага дома — з сем'яў алкаголікаў. Звычайна мнагадзетных. Вераніка — пятае дзіця ў сям'і. У астатніх дзесяці працэнтаў дзетдомаўскіх малых бацькі пазбаўлены волі. Няма сапраўдных сірот, вельмі мала «адказнікаў», тых, каго кінулі яшчэ ў радзільні. Прымета нашага часу — бацькі маладыя. Співаюцца хутчэй. Але чаму п'юць? І што бывае спачатку: дзеці або гарэлка? Чамусьці, пакуль у мяне не было траіх дзяцей, я і не думала аб гэтым. Цяпер пытанне не дае спакою. Калі ўсіх пакладзеш спаць і адчуеш сябе пераможцам у вялікай цяжкай бойцы, у якой конь загінуў, рука перабітая і ў галаву трапіла кап'ё, але ж застаўся цудам жывы, так хочацца добрым віном адзначыць перамогу. І ў наступны дзень. Кожны дзень. Вось табе і прамы шлях да дзіцячага дома. Там дзецям будзе лепш. Ніхто не будзе іх біць, там іх своечасова накормяць і апрануць, усяму навучаць, збяруць у школу. А мы? Ну дрэнныя мы бацькі, дрэнныя.

Нешта навагодняе трэба. Святочнае.

Ведаеце самую папулярную беларускую прымаўку? — «Ах, дзеці, дзеці, куды вас падзеці!»

Хлопчыкі адразу мне паказалі ялінку ў групе. З трыма Дзедамі Марозамі і чацвёртым кітайскім Санта-Клаусам на галінцы. У акружэнні шматлікіх цацак і звяроў. Потым павялі ў спальню. Адна сцяна стылізавана пад фасад драўлянага казачна прыгожага доміка. Чарапіца адкідваецца, пад ёй электраўключальнік. Усё зроблена з любоўю і майстэрствам. Вераніка нават не распранулася — так спяшаецца ўсё мне паказаць, што паліто вісіць у яе на адным рукаве. Са спальні ёсць акенца ў гульнявы пакой. Лена, гадоў пяць, дэманструе мне крэсла-качалку, Дзяніс — ляльку, якая ўмее енчыць. Андрэйка — адзіны, хто тут не з сям'і, а з дома малюткі, ходзіць і пяе: «мамамамама...» «Увесь час пяе гэтую песню, — каменціруе Таццяна Дзмітрыеўна, — а сам жа і не ведае, што гэта такое — мама».

Педагогі ў мінскім дзіцячым доме № 2 трымаюць нос па ветры. Яны не чапляюцца за традыцыйныя, напрацаваныя для зручнасці хутчэй дарослых, чым дзяцей, трафарэты. Увесь час спрабуюць самыя новыя методыкі, эксперыментуюць, шукаюць, выпрацоўваюць свой уласны вопыт выхавання дзяцей. Нездарма занялі ў гэтым годзе першае месца ў гарадскім конкурсе «Дзіцячая ўстанова года». Самае страшнае для дзяцей пакаранне тут — забарона нешта рабіць, сесці на крэсла і сядзець, калі астатнія гуляюць ці займаюцца. Галоўная задача дарослых — эмацыянальна разняволіць малое, кажучы словамі дырэктаркі, заслужанай настаўніцы Рэспублікі Беларусь Валянціны Зяневіч, захаваць пазітыўную «я»-канцэпцыю дзіцяці. Кажучы прасцей, выхоўваць дзяцей так, каб ні яны самі, ні навакольныя не ўспрымалі іх як дзетдомаўскіх. Каб гэта былі звычайныя, добрыя, разумныя, здаровыя дзеці. Можа, трошачкі больш самастойныя, самаабароненыя. Па кропельцы, пакрысе дарослы калектыў выцягвае сваіх дзяцей з дыягназу «затрымка псіхічнага развіцця», які апошнія набылі дома. Гэта справа патрабуе некалькіх гадоў карпатлівай працы. Затое вынік — выдатныя адзнакі ў агульнай школе, дзе вучацца хатнія дзеці, добрая самаацэнка, адчуванне ўласнай сілы і магчымасцяў. Братоў і сясцёр не разлучаюць, таму групы рознаўзроставыя — ад 3 гадоў да 12. Як у звычайнай сям'і.

Я не ўтрымалася і спытала аб пажаданнях для Дзеда Мароза. Старэйшыя селі пісаць. Вераніка не доўга думала: «Я хачу, каб Дзед Мароз падарыў усёй групе «Дом Барбі» і ляльку Сіндзі, і шакаладку «Мілкі Вэй», трынаццаць штук». Трынаццаць — столькі дзяцей у групе. Яна спынілася, падняла галаву: «А гэта сапраўды збудзецца?» Так, супакойваю яе, павінна, газета надрукуе, чароўны Дзед Мароз прачытае і выканае пажаданне (ці я памыляюся?). Тады Вераніка дапісала: «Каб мама да мяне прыязджала, і каб я ніколі не хварэла і добра вучылася, каб трэцяя чвэрць на «выдатна» і «добра». Каб не было «здавальняюча». Ад Веранікі». Віталік напісаў: «Я хачу, каб у мяне была паліцэйская машына, у якой адчыняюцца пярэднія дзверы і яшчэ адчыняюцца заднія дзверы, і яшчэ адчыняецца пярэдні багаж і задні багаж».

Вось і ўсё. Здаецца нічога немагчымага няма. Я пайшла. Дзеці засталіся. На двары мякка падаў снег. Я села не на той тралейбус і з'ехала ў іншы край горада. Потым перасела і паехала назад. Чамусьці не злавалася. Хацела павіншаваць з надыходзячым суседа па сядзенню. Але не рашылася, ён выйшаў. Усё ўзгадвала дзяцей. Маленькую Віку, на якую хтосьці казаў «чувырла», а яна пакрыўдзілася: «Я не чувыла, я добая Віка». Таццяна Дзмітрыеўна цалавала яе, суцяшала, выцірала слёзкі. Дзед Мароз у іх быў сапраўдны. Маёр. Дзеці як пачулі мужчынскі голас, адразу паверылі, што ўсе іх жаданні збудуцца. Можа, і мне не сумнявацца?

**Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА.**

## Субота, 9 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

7.00 Добрай раніцы, Беларусь!
8.00 Кантынент. Агляд міжнародных падзей.
8.15 «Сустрэчы з Бібліяй».
8.35 Відэазамалёўка.
8.40 Спажывецкая карзінка.
9.00, 15.00 Навіны.
9.15 «Прыгоды Тома Соера і Гекльберы Фіна». 3-я серыя.
10.25 «З Ражаством, малыш Мункі!». Мультфільм.
10.55 Калядныя гісторыі.
11.10 Здароўе.
11.35 Вяршыня свету.
12.00 «Вока». Пра рэкламу і не толькі...
12.25 «Усё нармальна, мама!»
12.55 «Зялёная студыя».
13.10 Серыял «Легенды пра Вільгельма Тэля».
14.05 Роднае слова.
14.25 Алімп.
15.10 Урокі Н. Наважылавай.
15.35 Пазнай сябе. «Псіхалогія папулярнасці».
16.00 «Папялушка». Мультфільм.
16.20 Ток-шоу «Гэта мая работа».
16.50 «Калядныя вечары».
17.00 Фільм-балет «Прынцэса на лёдзе».
18.00 «Песню бярыце з сабой».
19.40 «З праўдзівых крыніц».
20.05 Абібок.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.40 «Песню бярыце з сабой».
0.00 Відзьма-нявідзьма.

### ГРТ

7.20 «Прыгоды Электроніка». 3-я серыя.
8.30 «Русалачка».
9.00, 14.00 Навіны.
9.15 «Бесталковыя нататкі».
9.30 Пакуль усе дома.
10.05 Ранішняя зорка.
10.55 Сялянскія ведамасці.
11.25 Шчаслівы выпадак.
12.18 Мультфільмы.
12.40 «Адысея капітана Блада». 2-я серыя.
13.55, 0.35 Праграма перадач.
14.15 «Старыя песні аб галоўным-3».
16.50 «Цімон і пумба», «Аладзін».
17.40 Парыжскія тайны Эльдара Разанава.
18.25 Камедыя «Вяртанне высокага бландзіна».
20.00 Час.
20.30 Надвор'е.
20.40 Філіп Кіркораў. Адзін год з жыцця.
22.55 Навіны культуры.
23.15 Маст. фільм «Пра бізнесмена Фаму».

### Расія

7.00 «Казка пра Залатога пеўніка». Мультфільм.
7.30 Служу Айчыне!
8.00 «Алі-Баба і сорак разбойнікаў». Мультфільм.
8.30 Пошта РТР.
8.55 Прагноз надвор'я.
9.00 Добрай раніцы, краіна!
9.40 Сам сабе рэжысёр.
10.10 «Аншлаг».
12.00 Серыял «тыдзень у Санта-Барбары».
13.00, 19.00 Весткі.
13.30 Федэрацыя.
14.10 Парламенцкая гадзіна.
15.15 Тата, мама, я — спартыўная сям'я.
16.00 Дыялогі пра жывёл.
16.55 Маст. фільм «Тайны каралевы Анны, ці Мушкецёры праз трыццаць гадоў». 1-я серыя.
18.15 Зусім сакрэтна.
19.35 Меладрама «Стук сэрца».
21.10 «Фрак народа».
22.05 Маст. фільм «Паляванне на матылькоў».
0.00 Прагноз надвор'я.

### Культура

9.05 Надвор'е.
9.10 «Чытаючы Біблію».
9.20 Кансіліум.
9.45 «Чорная кура, ці Падземныя жыхары». Маст. фільм.
10.55 «Экспедыцыя «Чыж».
11.20 Відзапаззія.
11.35 Тэлесуфлёр.
11.50 «Дзіцячы свет».
12.20, 13.45, 15.00 «Травіята». Опера.
13.29 Азбука.
13.30, 21.00 Навіны культуры.
15.40 Міжнародны агляд.
16.20 «Скарбы Пецярбурга».
16.30 Ціхі вечар.
17.00 Навіны.
17.05 «2003».
17.10 «Руская сядзіба».
17.30, 18.15 «Бераніка». Спектакль.
19.15 Цуд-казка.
19.30 «Першая пазіцыя».
19.55 «Старыя майстры». Дак. фільм.
20.59 Азбука.
21.20 Праграма перадач.
21.25 «Саліст і дырыжор М. Плятнёў».
22.10 «Легенда аб Сурамскай крэпасці». Маст. фільм.

### НТБ

7.00 Мультфільм «Чыпаліна».
7.40 Да 75-годдзя С. Параджанава. «Колер граната».
9.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сёння.
9.15 «Шчырае прызнанне».
9.35 «Зразумей мяне».
10.05 Серыял «Легенда аб згубленым горадзе».
10.35 «Стары тэлевізар».
11.15 Прафесія — рэпарцёр.
11.30 «Серада».
12.00 Хакей «Металург» (Магнітагорск) — «Спартак» (Масква).
14.30 «Рускі век».
15.20 Серыял «Яна напісала зайбойства».
16.15 Суд ідзе.
17.00 Дог-шоу «Я і мой сабака».
17.30 Герой дня без гальштука.
18.40 Маст. фільм «Прывітанне і бывай».
20.30 «Усяго» з Віктарам Шандаровічам.
21.40 Маст. фільм «Кінг-конг».
0.00 «Пра гэта». Ток-шоу.

### ТБ-6 Масква

7.00 Праграма перадач.
7.05, 17.10, 22.20 Дарожны патруль.
7.15 Мультфільмы.
8.25 Мультсерыял «Сярэбраны конь».
8.50 Серыял «Фліпер III».
9.40 Серыял «Таямнічы востраў».
10.10 Прэм'ера «Star старт».
11.00 Шэсць навін тыдня.
11.25 Спорт тыдня.
11.50 Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»
12.10 Ток-шоу «Зрабі крок».
13.15 Канон.
13.45 Кабачок «О.С.П.-Крэслы».
14.35 Шоу Артура Крупеніна «Мужчынскі клуб»: «Ваеннабытавы раман».
15.35 Лепшыя фокуснікі свету прадстаўляюць...
16.40 «Зоркі аб зорках». Ігар Саруханаў.
17.20 Вы — відавочца.
17.50 Камедыя «Саламяны капялюшык».
20.25 Маст. фільм «Начныя ахвяры».
22.35 Дыск-канал.
23.10 Маст. фільм «Дарога 66».

### 8-ы канал

15.00 Джойс Маер «Жыццё ў слове».
15.30 Камедыя «Нічога не бачу, нічога не чую».
17.45 Мультпланета.
18.45 Музыка на тэлеканале.
19.40 Баявік «Кікбоксер».
21.15 Вечарніца.
21.30 Меладрама «Пачуццё і адчувальнасць».

### Еўраспорт

9.30, 23.30, 2.30 Ралі Гранада-Дакар-99.
10.00 Аўтагонкі на лёдзе: Andros Trophy (Францыя).
10.30, 11.45, 16.45 Лыжныя гонкі: Кубак свету (Чэхія).
11.00, 14.00 Біятлон: Кубак свету (Германія).
12.00 Горныя лыжы: Кубак свету. Мужчыны (Аўстрыя).
13.00 Горныя лыжы: Кубак свету. Жанчыны (Германія).
15.00 Скачкі з трампліна: Кубак свету (Швейцарыя).
18.00 Тэніс: Турнір АТП (Катар).
21.30 Футбол: Міжнародны турнір (Іспанія).
0.00 Бокс. Міжнародны турнір.
1.00 Канькабежны спорт: Чэмпіянат Еўропы (Нідэрланды).

### ТБ Цэнтр

7.45 «Наварту!»
8.15 «Хрона». У свеце аўта- і мотаспорту.
8.40 Прагноз надвор'я.
8.45 Дзіцячы канал «Вітамін росту».
9.35 Мультсерыял «Элвін і бурундучкі» (ЗША).
10.00 «Касмічны патруль». Серыял для падлеткаў.
10.25 «Падумаем разам».
10.50 «Архітэктурная галерэя».
11.05 «Отракі ў сусвеце». Дзіцячы фантастычны фільм.
12.25 «І адкуль я такі?» Віктар Шафееў.
12.55 Навіны.
13.10 Надвор'е на тыдзень.
13.15 «Футбол у дыялогах».
13.40 «Заставайцеся з намі!»
13.55 Мультсерыял «Цар Горы».
14.15 «Важак «Белае пяро». Маст. фільм.
15.35 «Салон Веранікі». Серыял (ЗША).
16.00 «Воблака 9».
16.45 Навіны.
17.00 «Пушкінскі дом».
17.25 Прагноз надвор'я.
18.00 «Не тая жанчына». Крымінальная драма.
19.35 Кінаанонс.
19.40 «Асаблівая папка».
20.25 Навіны.
20.40 Прагноз надвор'я.
20.45 Кінатэатр «Пяць зорак». «Насланнё». Меладрама.
22.30 «Слова і справа».
22.55 «Халоднае святло дня».

### АСТ

8.00, 14.00 Мультфільмы.
8.40 «Святы». Серыял.
9.40 Алё, Расія!
10.15 «Бусляня». Дзіцячая гадзіна.
11.00, 18.45 Навукова-папулярны серыял «Урокі з космасу». Фільм 4-ы. «Фізіка. Электрычнасць і магнетызм».
11.30 «У кругу сяброў». Ю. Бярэзін.
12.00 «Мэры Попінс, да пабачэння!» 1-я серыя.
13.10 «Дарога ў мора». На катамаранах «Газпрама».
13.30 «Спорт кожны дзень». Тэлеагляд.
14.30 «У пошуках капітана Гранта». 5-я серыя.
15.40 Прыгоды медзведзяняці Ніды.
16.05 Дак. фільм «Марыінскі тэатр».
17.00 У гэтыя дні... Многа гадоў таму.
17.30 «Смок і малыш». 3-я серыя.
19.10 «Тэлебачанне — любоў мая».
20.00 «Кола агню». Серыял.
20.30 «Факт».
20.40 Калейдаскоп.
21.00 «Аварыя». Дэтэктыў. 1-я серыя.
22.15 «Суботні настрой». Эстрадная праграма «Фанера».

## Нядзеля, 10 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

7.00 Добрай раніцы, Беларусь!
8.00 «Сустрэчы з Бібліяй».
8.35 «Сафія Полацкая».
8.40 Спажывецкая карзінка.
9.00, 15.00 Навіны.
9.15 «Мультклуб».
9.50 «Калядныя гісторыі».
10.05 Тураб'ектыў.
10.30 «Усё нармальна, мама!»
11.05 Арсенал.
11.30 Тэлевізійны Дом кіно.
11.55 Міжнародныя спартыўныя навіны.
12.15 Зроблена ў Беларусі.
12.30 Беларускі дом.
13.00 Серыял «Легенды пра Вільгельма Тэля».
13.55 Вяскоўцы.
14.20 «Запрашаем на вячоркі».
15.10 Насустрач.
15.50 Зорная ростань.
16.20 Тэлебарометр.
16.35 «Калядныя вечары».
16.45 «Мелодыі любімых казак».
17.20 Камедыя «Па запалкі!»
18.55 Тэленавігатар.
19.15 Стадыён.
19.40 Калыханка.
20.00 Рэзананс.
20.50 «Карамболь».
21.25 Меладрама «Сакрэты сэрца».
23.15 Прэм'ера песні.
23.25 Аўтапарк.
23.35 «Новая калекцыя.

### ГРТ

5.00 Тэлеканал «Добрай раніцы».
8.00, 11.00, 14.00, 17.00 Навіны.
8.15 «Жорсткі анёл». Серыял.
9.10 «Арына».
9.55 Парыжскія тайны Эльдара Разанава.
10.40 Смак.
11.15 «Разам».
14.15 Маст. фільм «Старая, старая казка».
16.00 «Жорсткі анёл».
17.20 «Тэма».
18.05 Тут і цяпер.
18.25 Камедыя «Непапраўны лгун».
19.45 «Добрай ночы, малышы!»
20.00 Час.
20.40 Надвор'е.
20.50 Маст. фільм «Капітан Хук».
23.15 Навіны дня.
23.30 Баявік «Прыгавор».
1.10 Праграма перадач.

### Расія

6.00, 8.50 Добрай раніцы, Расія!
8.35 «Праграма перадач».
9.00 «Санта-Барбара».
9.45 Музыка, музыка...
10.00, 16.00, 19.00, 23.00 Весткі.
10.30 «Ёлка ў старым доме». Дак. фільм.
10.50 «Калядная фантазія». Мультфільм.
11.00 Рускае лата.
11.40 Дыялогі пра жывёл.
15.15 Казачны полудзень.
15.30 «Першыя пацалункі».
16.30 «Вежа».
16.55 Камп'ютэр.
17.10 Маст. фільм «Тайна каралевы Анны, ці Мушкецёры праз трыццаць гадоў». 2-я серыя.
18.30 Камедыя «Тайна Зямлі».
19.35 Падрабязнасці.
19.50 «Два раялі».
20.35 Камедыя «Той самы Мюнхгаўзен». 1-я і 2-я серыі.

### Культура

7.05, 11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Навіны культуры.
7.25 «Чорная кура, ці Падземныя жыхары». Маст. фільм.
8.35 Лад жыцця.
9.00, 15.00, 17.00 Навіны.
9.05 «Жазеф Бальзамо». Маст. фільм. 4-я серыя.
10.00 Парадоксы гісторыі.
10.25 «Мастак з Астожанкі».
11.40 За люстэркам.
12.30 Сабор Ражаства Іаана Прадцечы.
12.40 Навагоднія старты.
13.29 Азбука.
13.45 «Кто там...».
14.15 «Дваранскія гнёзды».
15.05 Серыял «Машына пераўтварэнняў».
15.35 «Лукамор'е».
15.55 Жывое дрэва рамёстваў.
16.00 «Чалавек гэты — легенда».
17.05 «2003».
17.10 «Экалакол».
17.35 «Плаха». Фрагмент з рамана.
17.50 «Дакумент-панарама».
18.40 «Асеннія патрэты».
19.10 Цуд-казка.
19.25 Азбука.
19.50 Відэапаэзія.
20.05 Царская ложа.
20.45 Пасля навін...
21.05 «Жазеф Бальзамо». Маст. фільм. 4-я серыя.
22.00 «Лаўка Сілуана». Дак. фільм.
22.30 «Нязгасныя зоркі».

### НТБ

5.00 Сёння раніцай.
8.10 Дог-шоу «Я і мой сабака».
8.35 Мультфільм «Тайна запечнага цвыркуна».
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сёння.
9.15 Маст. фільм «Прывітанне і бывай».
10.50 Мультфільм «Кот і К°».
11.20 «Стары тэлевізар».
13.25 Серыял «Паненка следчая».
14.10 Сённячка.
15.20 «Ключы ад форта Баяр».
17.00 Вынікі. Прадмова.
17.20 Маст. фільм «Аэрапорт».
19.45 Лялькі.
20.00 Вынікі.
21.00 «Яе звалі Нікіта».
22.00 Вынікі. Начная размова.
22.30 Камедыя жахаў «Амерыканскі пярэварацень у Лондане».

### ТБ-6 Масква

6.00 Дзень за днём.
7.45, 16.35 Дарожны патруль.
8.00, 10.00, 12.00, 14.00, 17.00, 21.50 ТСН-6.
8.10 Маст. фільм «Янкі з Канектыкута пры двары караля Артура».
10.10 Скандалы тыдня.
10.40 «Зоркі аб зорках». Ігар Саруханаў.
11.10 Знак якасці.
11.20 Мультфільм «Іншаземец».
11.35, 14.10 Тэлемагазін «Дзякуй за пакупку!»
12.10 Маст. фільм «Легенда аб Воўчай гары».
14.20 Серыял «Страсці».
15.15 Мультфільм «Вяршкі і карэньчыкі».
15.30 Серыял «Падлеткі з вуліцы Дэграсі».
16.05 Дыск-канал.
17.25 Серыял «Трэцяя планета ад Сонца».
18.00 Аналітычная праграма «Аглядальнік».
19.00 «Дэтэктыў-шоу».
20.05 Маст. фільм «Захавальнік».
22.05 Радыёхіт.
23.10 «Эра Вадалея» з Іванам Конанавым.
23.40 Начны сеанс. «Сіла духу».

### 8-ы канал

15.00 Праграма Рыка Рэнера.
15.30 Маст. фільм «Танцор дыска».
17.45 Мультпланета.
18.15 Калекцыя 8-га канала.
19.00 Дак. фільм «Выратаваць загінуўшае».
19.30 Баявік «Кікбоксер-2».
21.15 Вечарніца.
21.30 Навіны «К-відэа».
22.00 Крымінальная камедыя «Мара кожнай жанчыны».

### Еўраспорт

9.30, 23.30, 2.00 Ралі: Гранада-Дакар-99.
10.00, 12.30 Лыжныя гонкі: Кубак свету (Чэхія).
11.00, 14.00, 17.30 Біятлон, Кубак свету (Германія).
13.15, 16.45 Горныя лыжы: Кубак свету. Мужчыны (Аўстрыя).
15.15, 1.15 Скачкі з трампліна: Кубак свету (Швейцарыя).
19.00 Тэніс: Турнір АТП (Катар).
21.00 Аўтагонкі на лёдзе: Andros Trophy (Францыя)
21.30 Спартыўная рыбная лоўля: Кубак свету-97 (Маўрыкій).
0.00 Навіны. Навагодні спортцэнтр.
0.15 Канькабежны спорт: Чэмпіянат Еўропы (Нідэрланды).

### ТБ Цэнтр

5.50, 6.15 «Навігатар». Інфармацыйна-забаўляльная праграма.
7.55 Навіны.
8.05 «Клубнічка».
8.35 «Наша песня».
8.45 «Даходнае месца».
8.55 Навіны.
9.00 «Марыя Баніта» (Калумбія).
9.50 Мультфільм «Прыгода на плыце».
10.00 «Маскоўскі кірмаш».
10.10 «Калядны рэпартаж».
10.55 Навіны.
11.15 «Ледзяная ўнучка». Маст. фільм.
12.25 «Хрона». У свеце аўта- і мотаспорту.
12.55 Навіны.
13.00 «Віртуальны свет».
13.25 Мультфільм «Брыдкае качаня».
13.55 Навіны.
14.00 «У палоне страсці».
14.55 Навіны.
15.30 «Пекла ў маленькім гарадку».
16.30 Навіны.
16.45 «Клубнічка».
17.25 «Даходнае месца».
18.55 Замежная камедыя «Пясок».
20.55 Вячэрнія навіны.
21.25 Навагодні фестываль камедый «Свята Нептуна». Сатырычная камедыя.
22.15 «Мужчынская цікавасць».
22.45 Навіны.
22.55 «Позняя вячэра».
23.10 «Начное рандэву».
23.50 «Базар».
0.20 «Інтэрнет-кафе».
0.45 «Эцюды на тэму Параджанава».

### АСТ

8.00, 14.00, 17.40 Мультфільмы.
8.30, 11.30, 14.30, 17.30, 20.30 Інфармацыйная праграма «Факт».
8.40 Навагодняя ёлка ў «Краіне Фестываліі».
9.50 Сноўборд — лыжная казка.
10.15, 17.00 Бусляня.
10.45, 16.45 Эканоміка для ўсіх.
10.55, 16.55 З XX у XXI стагоддзе. В. І. Гальданскі.
11.00, 18.40 Навукова-папулярны серыял «Урокі з космасу».
11.40 «Мэры Попінс, Да пабачэння!» 2-я серыя.
13.00, 19.30 Тэлечасопіс «Толькі для жанчын».
13.30, 21.20 «Спорт кожны дзень». Тэлеагляд.
14.40 «У пошуках капітана Гранта». 6-я серыя.
16.00 Спартыўныя вынікі года.
19.10 «Музычны вернісаж». О. Валяндо.
20.00 «Кола агню».
20.40 «Куміры экрана».
21.50 «Аварыя». 2-я серыя.





# Чым год мінулы нам запомніцца?

ЗВЫЧАЙНА ў канцы года прынята падводзіць яго вынікі. Кожны чалавек імкнецца вызначыць, што было для яго галоўным і важным за гэты перыяд. Такім чынам мы спрабуем адказаць, якім быў адыходзячы год у нашым жыцці: добрым ці наадварот. Сёння мы задаліся пытаннямі больш агульнымі: якім быў 1998 год у цэлым для Беларусі, чым ён запомніцца беларусу?

Дзеля гэтага зрабілі аналіз найбольш значных падзей у галіне палітыкі, эканомікі, культуры і іншых сфер жыццядзейнасці. Зразумела, пры ўсёй магчымай суб'ектыўнасці даследавання мы імкнуліся быць як мага больш аб'ектыўнымі. У выніку атрымалася, што за гэты час краіна перажыла і зараз пакутуе ад шматлікіх праблем. Але, дзякуй Богу, было ў жыцці месца святам і прыемным сюрпрызам, былі ў гэтага года і свае адметнасці.

Дарэчы, мы знарок не скіроўвалі ўвагу на канкрэтных асоб. Па-першае, вызначыць чалавека года ці, напрыклад, палітыка або спартсмена — справа сапраўды вельмі суб'ектыўная і не зусім удзячная. А па-другое, у сённяшнім нумары мы друкуем паведамленне аб прысуджэнні дзяржаўных прэмій, што цалкам заменіць персанальныя намінацыі.

## Заява года

Калі красавік — традыцыйны месяц беларуска-расійскіх інтэграцыйных памкненняў — прайшоў сёлета спакойна, то размовы аб збліжэнні дзвюх краін нечакана атрымалі імпульс у самым канцы года. Як вядома, падчас апошняга візіту прэзідэнта А. Лукашэнкі ў Маскву было падпісана некалькі новых дакументаў, якія вызначаюць перспектывы супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі. І хаця відавочных вынікаў ад дамоўленасцей пакуль няма, тым не менш яны па праву могуць называцца заявай года, паколькі менавіта гэтыя дакументы будуць вызначаць напрамак і ступень інтэграцыі ў наступным годзе.

## Працэс года

Яшчэ ў кастрычніку 1997 года, пасля арышту старшыні былога калгаса «Рассвет» Васіля Старавойтава, многіяназіральнікі сцвярджалі, што гісторыя загінецца надоўга. Так яно і здарылася. Следства па справе В. Старавойтава, які абвінавачваецца ў злоўжыванні службовым становішчам і крадзяжы, закончылася толькі праз год пасля арышту. Але суд доўжыцца да гэтага часу, і, відавочна, лёс былога старшыні вырашыцца ўжо ў наступным годзе. Пры гэтым «справа Старавойтава» не сыходзіць са старонак газет, і цікавасць да яе ў грамадстве не змяншаецца.

## Скандал года

Толькі пад канец 1998-га вырашылася праблема вакол комплексу «Дразды», дзе ў свой час пражывалі замежныя дыпламаты, акрэдытаваныя ў Мінску. У пачатку снежня была падпісана сумесная заява Міністэрства замежных спраў Беларусі і Старшынства Еўрапейскага саюза. Такім чынам, у бакоў з'явіўся рэальны шанц вычарпаць канфлікт, які доўжыцца з красавіка і аказвае самы моцны ўплыў на характар знешнепалітычнай дзейнасці нашай краіны. Верагодна, ужо ў першай палове студзеня ў Мінск вернуцца паслы замежных краін, і дыпламатычныя зносіны атрымаюць ранейшую дынаміку.

## Размовы года

Абмеркаванне перспектыў будаўніцтва на тэрыторыі краіны ўласнай атамнай электрастанцыі летась перастала быць спрэчкай толькі навуковага характару. Дыскусія, якая разгарнулася некалькі гадоў таму, сёлета, здаецца, дасягнула піку. Для вырашэння пытання была створана нават спецыяльная камісія, перад якой стаіць мэта ўзважыць усе аргументы супраць і на карысць будаўніцтва атамнай станцыі на Беларусі. Вядома, краіна адчувае дэфіцыт энергарэсурсаў, але грамадства, навучанае жудаснымі наступствамі чарнобыльскай трагедыі, адмаўляецца ўспрымаць чарговую ідэю «фікс». Між тым, энергетычнае лобі застаецца даволі моцным, таму не выключана, што спрэчкі закончацца правядзеннем у краіне рэферэндуму, на які будзе вынесена пытанне аб адносінах беларусаў да магчымасці будаўніцтва АЭС.

## Лічбы года

Нямала беларусаў у адыходзячым годзе хвалявала фінансавае пытанне, ад якога, зразумела, залежыць дабрабыт кожнага чалавека. Беларускі ўрад пакуль не валодае канчатковымі звесткамі адносна памеру інфляцыі за год. Аднак відавочна, што ўтрымаць яе рост у межах двух працэнтаў штомесяц, як гэта планавалася, не ўдалося. Між тым у нас ёсць магчымасць параўнаць курс беларускага рубля ў адносінах да долара ЗША, які быў у пачатку і ў канцы 1998 года. Так, у студзені Нацыянальны банк краіны ўстанавіў яго ў памеры 30 тысяч беларускіх рублёў за адзін долар, а абменныя пункты вялі куплю-продаж па 38-39 тысяч. У канцы снежня афіцыйны курс Нацбанка ўжо перавысіў 100 тысяч рублёў за долар, а абменныя пункты куплялі і прадавалі валюту па 230 — 260 тысяч. Такім чынам, кошт беларускага рубля на наяўным валютным рынку знізіўся за год амаль у сем разоў.

## Бяда года

Сапраўдным бедствам для Беларусі мінулым летам сталі праліўныя дажджы з навальніцамі і шквалістым ветрам. Яны абярнуліся паводкамі, ад якіх найбольш пацярпелі Гомельская і Брэсцкая вобласці. Сур'ёзны ўрон быў нанесены сельскай гаспадарцы: толькі бульбы воснню краіна недабрала амаль паўтара мільёна тон. Разбуранымі аказаліся сотні сельскіх дамоў, дарогі і лініі электраперадач. На жаль, не абышлося і без чалавечых ахвяр.

## Юбілей года

У лютым Беларусь адзначала 80-годдзе з дня нараджэння Пятра Машэрава. Да гэтага дня былі прымеркаваны сур'ёзныя ўрачыстасці, краіна годна ўшанавала памяць пра свайго вядомага сына. Колькі раз падчас гэтых мерапрыемстваў узгадваліся чалавечыя якасці былога кіраўніка Беларусі. У словах людзей, якія ведалі і якія працавалі разам з П. Машэравым, да гэтага часу адчуваецца смутак і шкадаванне, што такія людзі з'яўляюцца, можа, раз у стагоддзе.

## Сюрпрыз года

Беларускія хакеісты, выступаючы на Алімпійскіх гульнях у японскім Нагана, шчыра парадавалі не толькі заўзятых спартыўных балельшчыкаў. Разграміўшы ў адборачным туры каманды Францыі, Германіі і Японіі, яны ўвайшлі ў васьмёрку лепшых хакейных каманд свету. І хаця большага дасягнуць не ўдалося, нашы хлопцы змагаліся на алімпійскім лёдзе з вядомымі зоркамі сусветнага хакею вельмі мужна і на роўных. Пасля беларускага хакейнага «сюрпрыза» ў Нагана спартыўная эліта крыху інакш пачала глядзець на патэнцыял нашай дзяржавы. Застаецца пажадаць, каб гэты патэнцыял не быў згублены.

## Канцэрт года

Адзінай эстраднай зоркай сусветнай велічыні, якая наведала ў 1998 годзе Беларусь, стала французская спявачка Патрысія Каас. У красавіку яна дала канцэрт у Мінску. Акрамя канцэрта сп. Каас мела сустрэчу з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, пасля чаго не магла не выказаць свайго захаплення ад гэтага факта, заўважыўшы, што кіраўнікі дзяржаў, дзе яна гастралявала дагэтуль, звычайна не сустракаліся з ёй. Усхваляваная спявачка паабяцала яшчэ раз прыехаць у Беларусь і выступіць на ўрачыстым адкрыцці Палаца рэспублікі, будаўніцтва якога ўжо заканчваецца ў цэнтры сталіцы.

## Шоу года

Сярод масавых мерапрыемстваў найбольш запомніцца «Славянскі базар у Віцебску», і не толькі тым, што гэта было найбольш прадстаўнічае шоу (у ім удзельнічалі канкурсанты амаль з 30 краін свету), але яшчэ і тым, што напярэдадні мерапрыемства адбыўся невялікі, але прынцыповы скандал. Частка арганізатараў прапанавала змяніць месца правядзення фестывалю з Віцебска на Адэсу. Але толькі дзякуючы настойлівасці А. Лукашэнкі традыцыя захавалася, хоць фестываль крыху і змяніў сваю назву. Нягледзячы на арганізацыйныя цяжкасці відовішча не страціла прывабнасці. Адзінае, што сур'ёзна засмучае, — з кожным годам на фестывалі менш і менш гучыць беларуская мова.

## Нечаканасць года

Беларус, калі разважае пра нечаканасці, прыгаворвае: зваліўся як снег на галаву. У мінулым годзе гэта адбылося ў прамым сэнсе: самай вялікай нечаканасцю была ранняя зіма. Першы снег, выпаўшы ў пачатку лістапада, так і не растаў. А ў снежні беларускія СМІ ўжо канстатавалі, што зарэгістравана рэкордная для гэтага часу вышыня снежнага покрыва. Сапраўды, такой зімы Беларусь не бачыла даўно. Якой яна будзе далей, пакажа час. Але гэта ўжо будзе, магчыма, адметнасцю наступнага года.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**



**— Палітыкам — мудрасці і пачуцця нацыянальнай годнасці, эканамістам — прагматызму і цвярозасці, а ўсім суайчыннікам разам — дабрабыту і шчасця ў кожны дом. Няхай вашы магчымасці заўсёды супадаюць з жаданнямі!**

# ЦЯЛЕЦ павінен узважваць усе «за» і «супраць»

***ЦЯЛЬЦЫ часам вызначаюцца бычынай упартасцю, і гэтая якасць можа прывесці іх у гэтым годзе на мяжу катастрофы, асабліва ў сакавіку і жніўні. ЦЯЛЬЦАМ тады будзе здавацца, што ўсё праваливаецца ў чорную дзірку. Толькі не трэба адчайвацца: калі не лезці на ражон, старанна ўзважваць усё «за» і «супраць», выключыць рызыкоўныя мерапрыемствы, дык у канцы года можа быць дасягнуты і абнадзейлівы вынік. Наўрад ці варта чакаць асаблівых удач, але і бяду можна абмінуць. Далёка не лепшы год для ўзяцця шлюбу, тым не менш, у другой палове года, выключаючы жнівень, можа і пашанцаваць.***

# «Жыў ды быў рыжы кот за вуглом»



**— Жадаю, каб у новым годзе вам удалося падкрасціся на мяккіх кашачых лапках да ўдачы і злавіць яе, нарэшце, за хвост!**

**Такім чынам, 16 лютага 1999 года ў 8.39 раніцы наступіць год Рыжага Ката. Кажуць, што будзе ён няпросты, што сам Настрадамус прадказвае падзеі, ледзь не гібельныя для Еўропы: «У месяцы сёмым года 1999-га планеты замкнуць сабой крыж, і гэта прынясе страшэнныя бедствы для Еўропы — яна будзе змыта морам або разбурана землятрусам...» Але давайце ўсё ж сустрэнем свята аптымістамі: кот — жывёліна хатняя, таварыская, неканфліктная. І, як лічаць вучоныя, працяглая дружба з кошкай умацоўвае імунную сістэму чалавека, спрыяе яго здароўю і даўгалеццю. Вядома, што дакрананне да кошкі паніжае ціск у гіпертонікаў і нават папярэджвае інфаркт. А група экспертаў, якая праводзіла даследаванне па заказу міністэрства аховы здароўя ЗША, змясціла катоў у разрад «сродкаў, прымяняемых супраць стрэсавага стану». Вось якая чарада добрых якасцяў.**

**Аб гэтым — наша гутарка з вядомым беларускім феналагам (нагадаем, што так называюцца спецыялісты, якія займаюцца разглядзеннем катоў) Янінай Паўловіч.**

*— Яніна Мікалаеўна, чаму чалавек бярэ ў дом ката? Ці існуе нейкая сувязь паміж характарам чалавека і яго любоўю да той ці іншай жывёліны?*

— Амерыканскія даследаванні паказалі, што сабак хочуць мець людзі з аўтарытарным складам характару, якія могуць падпарадкоўваць сабе іншых. Катоў жа, як правіла, выбіраюць людзі больш мяккія, больш спакойныя.

*— Усім вядомая старая традыцыя — першай у новую кватэру запускаюць кошку. Якое, па-вашаму, тут ёсць тлумачэнне?*

— Існуюць розныя гіпотэзы наконт гэтага. Самая распаўсюджаная заключаецца ў тым, што каты адчуваюць геапатагенныя зоны і выбіраюць сабе месца менавіта ў такой зоне, быццам «нейтралізуючы» яе, адцягваючы на сябе неспрыяльнае для чалавека ўздзеянне. Так што ў нейкім сэнсе кошка — гэта прыроднае лякарства. Вядома, што калі гаспадар захварэў, кошка літаральна не адыходзіць ад яго. Даказана, што ў сем'ях, дзе жыве кот, радзей бываюць сардэчна-сасудзістыя захворванні. Безумоўна, успрымаць гэту інфармацыю ў літаральным сэнсе не варта. Гаворка можа весціся толькі аб прафілактыцы. Гіпертанічны крыз з дапамогай адной толькі кошкі не пераадолець.

Між іншым, па статыстыцы, сем'і, дзе трымаюць кошку, значна радзей распадаюцца, і наогул у такіх дамах больш цёплая атмасфера, больш даверлівыя адносіны паміж блізкімі. Калі ў сям'і пачынаюцца сваркі, узаемныя прэтэнзіі з павышэннем голасу — кошка можа ўмяшацца: будзе нервова таптаца побач, мяўкаць, а можа нават і ўкусіць, і гэтаму ёсць цалкам зразумелае тлумачэнне. Справа ў тым, што ў катоў вельмі тонкі слых. Таму любое павышэнне голасу для іх — даволі страшная пакута. Нават у звычайнай сітуацыі, калі вы прыходзіце дадому стомленым, раздражнёным, кошка настолькі гэта адчувае з парога, нават па кроках на лесвіцы, што хутчэй за ўсё падбяжыць, будзе церціся аб ногі, лашчыцца — заспакойваць. Дарэчы, больш ласкавымі і «самааддаными» ў барацьбе са стрэсам прызнаюцца усё-такі каты, а не кошкі.

*— Для кошак мае значэнне, колькі чалавек жыве ў доме?*

— Увогуле гэта залежыць ад пароды. Але ў любым выпадку гаспадар у ката заўсёды будзе адзін, і менавіта той, каго ён выбера сам. Дарэчы, часцей за ўсё гаспадаром каты выбіраюць мужчыну. Гэта вельмі добрыя сябры, у іх моцная эмацыянальная сувязь з чалавекам. Вядомы выпадкі, калі пасля смерці гаспадара неўзабаве памірае і кошка — не маюць сіл перажыць гэтую страту. А ўспомніце, колькі было паведамленняў у друку аб тым, як каты знаходзілі дарогу дамоў за дзесяткі, сотні кіламетраў. Адзін з такіх герояў на пачатку 90-х жыў у нас у Мінску, які ледзь не палову былога Саюза пехатой прайшоў, а знайшоў дарогу дамоў — цэлых паўгода дабіраўся. Як гэта растлумачыць? Па магнітных лініях яны арыентуюцца, па шумавой карціне — усё гэта толькі меркаванні, дакладных тлумачэнняў пакуль няма.

У Злучаных Штатах ёсць нават спецыяльны цэнтр, які ўжо шмат гадоў займаецца вывучэннем кашачых сакрэтаў. Вось так: мы вывучаем іх, а яны — нас.

*— Яніна Мікалаеўна, крыху раней яны гаварылі аб скандалах. Кажуць: «жывуць, як кот з сабакам». Наколькі справядлівае гэтае выказванне?*

— Я лічу яго абсалютна абсурдным. Гэтыя жывёліны выдатна ўжываюцца адно з адным, зафіксавана безліч выпадкаў сапраўднай, шчырай дружбы паміж катамі і сабакамі. Бывае, вядома, калі кошка пачынае шкоднічаць і «падстаўляць» пры гэтым сабаку. Напрыклад, кошка залазіць на стол, дзе стаіць каробка з цукеркамі, і будзе, забаўляючыся, па адной скідваць на падлогу сабаку, а пасля адкуль-небудзь з шафы з задавальненнем назірае, як яе сябра атрымлівае наганяй ад гаспадара. Вось калі ў доме ёсць рыбкі ў акварыуме ці, скажам, птушка, то тут сапраўды аб дружбе не можа быць ніякай гаворкі — каты не змогуць пераадолець свой паляўнічы інстынкт.

Вось такія яны — нашы бліжэйшыя сябры. Быццам усё пра іх ведаем — разам жывём ужо сотні гадоў, але адначасова побач з намі няма больш загадкавай істоты, чым кошка. Мы нават не ведаем, чым яна мурлыкае.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

# Навагодні рамантызм у паэзіі

У **Рыгора Барадуліна** напрыканцы года здарылася прыемная падзея: завершана работа над альбомам рамансаў, музыку да якіх пісаў Алесь Камоцкі. Варта толькі трапіць пад уплыў «Зоркі спагады» (такую назву мае альбом), як адразу адчуваеш: нешта не тое мы прызвычаіліся цаніць у жыцці.

Нездарма ж кожная жывая істота імкнецца прыбіцца да пары. Дык ці могуць быць нейкія сумненні ў тым, што светам кіруе любоў?

А свята гэтай зоркі досыць моцнае. Вось і любімы кот Рыгора Іванавіча, Мірон, магчыма, пад уплывам гаспадаровых думак гаспадара пусціўся ў прыгоды. Да так, што ўсе ў хаце за яго хваляваліся, раптам дамашні любімец знік — збег да панянак. Дзіўна, але памяняў хлеб на волю. Людзі, бывае, робяць наадварот. А для Мірона ж гаспадары ніякіх прысмакаў накшталт «Віскасу» не шкадавалі. Клікалі яго, шукалі і дачка паэта, і ўнучка, аб'явы пісалі. Але Мірона не было. Гаспадары з кожным днём усё больш гублялі надзею яго знайсці. Аднак аднойчы выйшлі на вуліцу, а ён на лаўцы сядзіць і нават гэта вінавата. Сам прыйшоў.

## Ода года

*Найдасканалае ў ката*
*Усё — ад вусаў да хваста.*
*Ды кот,*
*каб спраўным слыць катом,*
*Мець мусіць штосьці пад хвастом.*
*Ні навальніца, ні слата*
*Не перашкода для ката,*
*калі да коткі ён ідзе*
*Ці па страсе, ці па градзе,*
*А ўжо кахаць умее кот*
*Так, што трашчаць і дах і плот.*
*Сям'ю нялёгка мацаваць,*
*Лягчэй на волі марцаваць.*
*Напоўніць чаркі любата*
*Нам за каханне ў год Ката!*



# БЛІЗНЯТЫ абуджаны пачуццём кахання

***Цудоўная першая палова года, добрыя змены ў асабістым жыцці, удалая самарэклама, грамадская папулярнасць. Рамантычнае знаёмства здольна абудзіць сапраўднае пачуццё кахання. Улады не балуюць увагай і прыхільнасцю ў канцы лета, а акрамя таго цалкам верагодныя рабаванні, сутычкі з крымінальным светам, бюракратычнымі структурамі. Жонка ці муж запатрабуе поўнай самааддачы і дапамогі ад вас у жніўні. Актуальная праблема ў гэты ж час — уласнае здароўе, і гэта павінна вас абразуміць у патрэбны момант. Кола вашых сяброў папоўніцца цудоўнымі людзьмі ў канцы года.***

# Як зажыве «зайчык» у год Зайца?..

СЁЛЕТНІЯ паводзіны беларускага «зайчыка», скажам прама, не цягнуць нават на «здавальняючыя». Айчынны рубель у год Тыгра зусім разбэсціўся, хоць да канца летніх «канікулаў» і паводзіў сябе больш-менш прыстойна: перыядычныя скачкі «віславухага» рэкордаў не білі і здароўе істотна нам, беларусам, не псавалі. Праўда, на працягу ўсяго года вяліся шматлікія спрэчкі наконт альтэрнатыў «выхавання» народжанага ў гэтым дзесяцігоддзі ўласнага дзіцяці. Хто ведае, як бы ўсё абярнулася, калі б не ўмяшаўся ў гэты працэс суседскі рублік, які, трэба заўважыць, мае вялікі ўплыў на наш. Трэба было толькі «захварэць» расійскаму, як беларускі рубель пачаў сохнуць на вачах. На жаль, мноства лекаў, якія прапісаў шматпакутнаму «зайчыку» галоўны тэрапеўт — Нацыянальны банк, на самаадчуванне пацыента істотна не паўплывалі: хвароба прагрэсіруе. Аднак ёсць надзея (якая, як вядома, заўсёды памірае апошняй), што ў будучым годзе ўсё зменіцца і дыягназ стане куды больш аптымістычным: усё ж такі надыходзячы мы правядзём пад знакам Зайца — існуе верагоднасць, што ён стане лёсаносным для «зайчыка» ў лепшым сэнсе.

Не ўсе банкіры, між іншым, з якімі давялося гутарыць, падзяляюць аптымістычныя прагнозы на наступны год. Напрыклад, старшыня праўлення аднаго з камерцыйных банкаў рэспублікі ўпэўнены, што ў 1999 годзе афіцыйны курс беларускага рубля ўпадзе не менш чым у тры разы. Прычым песімізм банкіра падзяляюць многія аналітыкі, якія летась разлічвалі на больш станоўчы зыход у адыходзячым годзе.

— Сапраўды, незалежныя эксперты, якія ведалі запланаваны аб'ём эмісіі ў сярэдзіне года, прадказвалі курс беларускага рубля на канец у 100 тысяч рублёў за долар, — гаворыць прафесар БДУ Міхаіл Кавалёў. — На жаль, нават прагнозы незалежных экспертаў не апраўдаліся. Галоўная падзея, якая значна паўплывала на дэвальвацыю беларускага рубля, выклікана фінансавым крызісам і стратай плацежаздольнасці Расіі. Фактычна кошт нашага экспарту ў суседнюю дзяржаву паменшыўся ўтрая. У выніку са жніўня мы які ўжо месяц запар недабіраем прыкладна сто мільёнаў долараў у месяц. Гэта адбілася на ўсіх сегментах рынку, выявіўся востры дэфіцыт долара нават для аплаты крытычнага імпарту.

*— Міхаіл Міхайлавіч, бягучыя праблемы не разумее, мабыць, толькі немаўля. Як, на ваш погляд, будзе развівацца сітуацыя ў наступным годзе.*

— Дакладна спрагназіраваць цяжка. Разам з тым, з аднаго боку рашучых дзеянні ўрада і Нацбанка дазволілі ўрэгуляваць запазычанасці, якія ўзніклі ў выніку падзей у Расіі. З другога — узноўлена разліковая сістэма Расіі і Беларусі праз надзейныя банкі. І ёсць надзея, што экспарцёры змогуць адаптавацца да новых рэалій і ўзнавіць экспарт. Ад гэтага ў многім залежыць тое, па якому сцэнарыю будзе развівацца валютная сітуацыя ў наступным годзе.

Натуральна, што курс беларускага рубля на канец наступнага года ў значнай ступені залежыць таксама ад таго, ці ўдасца нам утрымацца ў рамках запланаванай эмісіі, што зрабіць будзе нялёгка з улікам даволі вялікай інфляцыі ў канцы гэтага года. Гэта значыць, грошай не будзе хапаць. Разам з тым, калі ўдасца ўтрымаць эмісію ў запланаваных рамках, то ёсць магчымасць паўтарыць сцэнарый 1995 года, калі практычна ўвесь год курс заставаўся стабільным. Але яшчэ раз падкрэслю, што курс робіцца не ў Нацбанку, не ў Савеце Міністраў, а на заводах, якія заключаюць экспартныя кантракты: калі на працягу студзеня-лютага імі будзе заключана дастатковая колькасць экспартных кантрактаў — з курсам будзе ўсё ў парадку. Канешне, некаторы псіхалагічны ўплыў акажа і тое, ці падтрымае нас МВФ: важны не столькі крэдыт, яго памер, а тое, наколькі гэта зменіць псіхалагічную атмасферу ў грамадстве, адносіны інвестараў да Беларусі і дазволіць замацаваць курс, на жаль, на вельмі нізкім узроўні, на якім ён сёння знаходзіцца.



— Ну, за «зайцоў»...

— Беларускі «зайчык» да лета, калі нічога ў эканамічнай палітыцы не зменіцца, упадзе да 400—500 тысяч рублёў за долар, а да зімы — да 700—800 тысяч, — лічыць Аляксандр Лучанок, загадчык аддзела Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук. — На неафіцыйным рынку па безнаяўнаму разліку да канца наступнага года кошт долара можа перасягнуць за мільён.

На гэта ўплываюць два фактары. Перш: Нацыянальны банк штогод працягвае павялічваць грашовую масу ў 2 разы, не забяспечваючы яе адпаведным таварным пакрыццём. Гэта прыводзіць да росту курса долара ў 2 разы. І па-другое, наш «зайчык» цалкам залежыць ад расійскага рубля: калі расійскі рубель будзе падаць, то і беларускаму не паздаровіцца.

*— Аляксандр Іванавіч, на вашу думку, як пазбегнуць падзення?*

— Па-першае, трэба перайсці да свабоднай каціроўкі беларускага рубля на МВБ. Тады курс безнаяўнага рубля да долара падымецца з 450 тысяч прыкладна да 350. Зараз на безнаяўным рынку курс складае 400—450 тысяч. Гэта адбываецца таму, што вельмі абмежаваная колькасць нерэзідэнтаў вызначае гэты курс. Калі ж мы будзем свабодна канверсаваць, свабодна прадаваць і купляць, а галоўнае, адменім ільготны продаж валюты, то тады курс долара ў адносінах да беларускага рубля знізіцца.

Па-другое, неабходна спыніць фінансаванне ўсіх праектаў па будаўніцтву, неабгрунтаваных праектаў падтрымкі сельскай гаспадаркі. Штогод кожны грамадзянін Беларусі, які не будуе жыллё, з-за напампоўвання грошай у жыллёвае будаўніцтва страціў фактычна свой сярэднямесячны даход.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**



## РАК робіць удалы ход ва ўладу

***Ваш рэйтынг павышаецца. Варта нагадаць аб сабе магчымым апекунам, таму што зусім верагодная даволі перспектыўная работа ў першай палове года, удалае хаджэнне ва ўладу. Улетку магчыма небяспечная задума, і для вас даволі актуальнае пытанне: «Скажы мне, хто твой сябар — і я скажу, хто ты». Няма нічога дзіўнага ў чалавечай няўдзячнасці ў канцы лета. Аднак усё гэта будзе адбывацца на фоне спрыяльных перамен у асабістым жыцці і творчасці. Якія б ні былі ўрокі кахання, вы станеце прыхільнікам выразу: «Усё, што ні робіцца, — да лепшага». І будзеце мець рацыю.***

# Ну, заяц, пачакай!

## Крыху аб асаблівасцях нацыянальнага палявання

ПАЛЯВАННЕ на зайца пачынаецца з 1 кастрычніка. Звычайна ў лясніцтвах гэтую дату ссоўваюць на тыдзень-другі — глядзяць па абставінах. Позняй восенню пачынаецца гон — зайцоў ганяць з сабакамі. Цікавае відовішча! «Лістападнікі» — прадмет палявання позняй восенню. Велічынёй з пацука, а ўсё ж для паляўнічага гэта сапраўдны трафей, доказ уласнай годнасці.

У гэтым выпадку мне чамусьці ўспамінаецца пра ці не самы моцны спрадвечны мужчынскі інстынкт — здабыванне ежы для сям'і, барацьба са страшэнным прывідам голаду, які раней літаральна пастаянна «вісеў» за плячыма. Толькі вось «прадметы» палявання зараз крыху змяніліся: тады на маманта хадзілі, сёння — на зайца-русака. Толькі гэтая розніца, а так, здаецца, усё засталося такім жа. І гонар паляўнічы не стаў меншым. Застаецца ўсё ж інстынкт!

Звычайна ў паляванні ўсё ж галоўнае, напэўна, не трафей, а, як казаў адзін з палітыкаў, «сам працэс». Здабыча — гэта справа іншая. У размовах з паляўнічымі амаль заўсёды пытаюся пра трафей. Адказ: ну падстрэліў аднаго (варыянт: двух-трох і г.д.). Заўсёды расказваюць пра цікавыя акалічнасці, нейкія «дробязі» (так здаецца непрафесіяналу), а пра «галоўнае» — ні-ні.

Пераднавагодні тыдзень паляўнічых яўна не парадаваў — надвор'е не зімняе. Адліга. У гэтай сітуацыі ўсё дрэнна — спачатку снег растае, а ўначы як падмарозіць, дык намярзае скарынка зверху. У такое надвор'е буйная жывёла і ўвогуле па лесе не ходзіць — цяжка, пад лёд ногі праваливаюцца. Паляваць выходзяць толькі «фанаты» — ходзяць «па дарогах». Крыху ўбок — і сабакі ўжо не тую хуткасць развіваюць, і чалавек калі ідзе, дык трэск такі стаіць, што ўся жыўнасць знікае.

Расказваюць цікавыя гісторыі пра звярыныя вушы — быццам бы чалавека яны беспамылкова вызначаюць. Знаёмы назіраў аднойчы такую карціну: заяц, што ляжаў у каляіне, не толькі не збег ад каня, які пасвіўся на лузе, а нават пачаў калаціць яму лапамі па храпе, калі конь вельмі блізка пачаў шчыпаць траву. Аднак русак імгненна ўскочыць і даверыць сваё жыццё жвавым нагам, як толькі адчуе небяспеку. Ён сам ведае, што для яго небяспечна, а да чаго трэба ставіцца спакойна.

У асноўным жыццё ў зайцоў віруе ўначы. Зіма для іх — «рай зямны». Ночы доўгія, і «працоўныя дні» зайцоў — таксама. Устаюць з «лёжкі» і выходзяць харчавацца. Звычайна наконт самай доўгай ночы (у дзень зімовага сонцастаяння) раней сярод паляўнічых бытавала цікавая прымаўка: хадзіць, хадзіць зайцу, спаць, спаць мужыку.

Першая завея — і з'яўляецца мноства слядоў. Гэта мудрагелістая «грамата», спасцігнуць якую можа не кожны. Сапраўдны паляўнічы лёгка чытае «ліст», што пакінулі зайцы, ваўкі, ласі і г.д., а навічок толькі лыпае вачыма. Звычайна ўжо падчас першай завеі застаюцца толькі зайцы-«прафесары». Паляваць на іх цяжка — кожны бяляк выпрацоўвае свой асабісты план бегу, і разгадаць яго не заўсёды бывае лёгка. Пасля сваёй начной кармёжкі зайцы вучацца хавацца, таму ў канцы восені, як расказваюць паляўнічыя, здаецца, што ўсе зайцы прапалі, а пасля першай парошы — як з неба зваліліся.



— Ну, за зайчыкаў!

Цікавы выпадак, што звязаны з зайцамі-«прафесарамі», апісаны вядомым рускім пісьменнікам Міхаілам Прышвіным. У той год, пісаў Прышвін, навучыліся «прафесары» тры вярсты кружыць, а потым хаваліся ў густых елках. Пакуль туды сабака дабярэцца — глядзіш, а заяц ужо ў іншым месцы стаіць. Ельнік рос на балоце, якое пакрылася ільдом-ташчаком (тонкі лёд, па якім немагчыма бегчы ні сабаку, ні паляўнічаму — абавязкова, як ступіш, дык у ледзяную ваду праваліваешся). Там хаваліся зайцы і нельга іх было выгнаць. Выйсце Прышвіну падказаў знаёмы паляўнічы — ён зайшоў у ваду ў валёнках і падстрэліў «прафесара». Але ногі ў «вынаходцы» аказаліся сухімі, бо ён яшчэ з вечара валёнкі ў вадзе змачыў і пакінуў на дварэ. Такім чынам «ледзяныя боты» атрымаліся. Так і перахітрыў вушастага «прафесара».

Маё асабістае «знаёмства» з русаком адбылося яшчэ ў дзяцінстве. Дзед быў заўзятым паляўнічым. Яшчэ зранку ён узяў сабаку і накіраваўся ў лес, каб прынесці якой-небудзь дзічыны на снеданне. І гон аказаўся ўдалым. Нават мяне з ложка паднялі, паколькі загнаў дзед русака ажно ў хату. Я са сну нават нічога не зразумеў, прачнуўся — нада мной дзядуля зззяе ўсмешкай, а ў ягоных руках бялюткі зайчык лапамі размахвае. Мне так шкада стала беляка, што ўгаварыў дзеда выпусціць яго. Вынеслі на двор, і, як толькі апусцілі на зямлю, той куляй панёсся па полі ў напрамку лесу. Відаць, дзядулю той жа «прафесар» папаўся — цэлую раніцу за ім паляваў, сам ужо ледзь бег, сабака стаміўся, а заяц ажно ў родную хату прыбег. Да мяне пад ложак. Што ж, і такое здараецца...

Акрамя беляка ў нас ёсць заяц-русак, гэты больш па палях гойсае. Прыжыўся каля людзей, таму і колькасць яго не змяншаецца — ежы ж на палетках хапае.

Любім мы зайцоў, любім. У разнастайным жывёльным свеце ў чалавека заўсёды ёсць свае любімцы, свае героі. І гэта звычайна слабыя. Нават у Афрыцы заяц — галоўны персанаж усіх баек і гісторый. А зараз яго проста нельга не ўспомніць — усё ж «гаспадар» надыходзячага года. У нас заяц заўсёды пераможца — і ў анекдотах, і ў знакамітых «мульцяшках». Вось, напрыклад, адзін з характэрных анекдотаў.

У электрычцы, поўнай розных звяроў, заяц іграе на балалайцы, іграе кепска. І ўсім надакучыў. Першай не вытрымала ліса.

— Кінь брынькаць, заяц!

— Што? А ну пайшлі выйдзем...

Вяртаецца заяц з тамбура ўжо адзін і зноў за сваё. Цяпер не вытрымлівае воўк.

— Заяц, я цябе разам з тваёй балалайкай зараз праз акно...

— Праз акно? Давай выйдзем.

Вяртаецца заяц зноў адзін і зноў трэнькае.

Драмаўшы мядзведзь раве:

— Заяц!

— Што — заяц? Давай выйдзем...

Цяпер з тамбура выходзіць тыгр.

— Ну, каму тут яшчэ не падабаецца, як заяц на балалайцы грае?

Анекдот, як бачым, атрымаўся алегарычны — у ім два сімвалы прысутнічаюць — мінулага і надыходзячага года, тыгра і зайца. Тыгр — драпежнік, заяц — ахвяра, аднак у фальклоры яны разам. Можа і год надыходзячы будзе больш лёгкім, чым мінулы. Лёгкім, імклівым зайчыкам праскача ён. Магчыма, удалым будзе нашае паляванне (і ў прамым, і ў пераносным сэнсе).

Прынамсі, у гэта хочацца верыць.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**




# Зорка Звязды

Сярод тысяч беларускіх вёсак яе вылучаеш адразу. Калі шчыра, у думках гэты маршрут быў «адпрацаваны» даўно. Паўночна-заходні куток Лепельшчыны. Амаль ускраіна раёна. Колькі кіламетраў ад былой «польскай» мяжы. Вёска Звязда.

Калі ў сапраўднасці тут пасяліліся людзі, па-ранейшаму застаецца загадкай. Магчыма, раскрыць «таямніцу» дапамогуць раскопкі курганных могільнікаў, лік якіх у наваколлі цяперашняй вёскі ідзе на дзесяткі. Але гэта будзе некалі. Пакуль жа дакладна вядома адно: у дакументах першыя звесткі аб паселішчы Аўгустова з'яўляюцца з сярэдзіны мінулага стагоддзя. Звесткі даволі сціплыя: нічым асабліва не прыкметны фальварак Пышнянскай воласці, уласнасць паноў Шчытаў. Фальварак Аўгустова ператвараецца ў вёску толькі пасля 1917 года. Неўзабаве ствараецца калгас. Нарэшце, настае час знакамітай пастановы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 20 красавіка 1939 года. Паводле яе на Лепельшчыне змяняюцца назвы адразу адзінаццаці населеных пунктаў. Так, вёска Плешкі становіцца Чырвоным Сялом, Чорная Лаза — Чырвоным Усходам, Карсакаўшчына — Шчаслівым Жыццём, Аўгустова — Звяздой... Пытанне «чаму» пакінем без адказу: сёння тут гэтага не ведае ніхто.

Звяздой, дарэчы, вёску называе ў асноўным моладзь. Для старых яна Аўгустова і зараз. Ёсць нават паданне, што гэтую назву паселішча атрымала па імені колішняга тутэйшага пана Аўгуста. З панскай сям'ёй звязваюць і «паходжанне» буйнейшага з мясцовых азёр Тэкліц — кажуць, што некалі ў ім патанула адзіная дачка гаспадара фальварка Тэкля.

Зрэшты, як там было на самай справе, можна хіба што здагадвацца: сведак ужо не засталося. Затое жывуць у Звяздзе ўспаміны пра былую «польскую» мяжу. Часам амаль анекдатычныя. Маўляў, падвыпіў неяк адзін з мужыкоў, сеў на сані, па дарозе дамоў неўпрыкмет заснуў, а прачнуўся ўжо па «той бок»... Шкада толькі, што жартаваць выпадала не заўсёды.

Відаць, гэта лёс большасці прыгранічных вёсак. «Чалавек шукае дзе лепей». Атрымалася так, што шмат хто з тутэйшых жыхароў невядомымі сцежкамі хадзіў «у Польшчу» падзарабіць. Некаторыя мелі там сваякоў. Потым... Потым знаходзіліся «пільныя людзі». І ў свае семдзесят з лішкам гадоў адна са старэйшых жыхарак Звязды Анэля Ігнатаўна Гатоўская адмаўляецца разумець, за што ў 37-м забралі яе бацьку.

— Каб не заходнікі, пэўна, мы б і не выжылі, — разважае бабка Анэля. — Было аж зайздросна. Колькі сябе памятаю, адтуль кожную суботу і нядзелю цэлымі вазамі везлі на кірмаш хлеб, вялі кароў, свіней. Гэта не тое што ў калгасе, у калгасе было пуста. Здаецца, і працавалі з апошніх сіл (як жа, сам старшыня пахваліць), і ўкрасці нават дробязь баяліся. Толькі ўсё дарма. Праўда, неяк і хлеб каштаваў 20 капеек, і жыць можна было. Але сёння не тое пенсіянерам, маладым цяжка.

Яшчэ дзесяць гадоў таму калгасам «Чырвоны партызан», без перабольшання, ганарыліся. Зараз гэта мінулае: сёлета тут маюць сярэдні заробак 2 мільёны 300 тысяч, які да таго ж, не выплачваюць з верасня.

Тым часам факт застаецца фактам: з калгаса працягваюць звальняцца. Усе, у каго ёсць хоць якія-небудзь магчымасці, уладкоўваюцца ў лясгас або ў бюджэтныя арганізацыі — прасцей кажучы туды, «дзе плацяць грошы». Астатнім (зноў-такі спецыфіка часу) даводзіцца разлічваць у першую чаргу на ўласны падворак.

... Разам з выпадковым «гідам» Таццянай Мазго ідзём па незвычайна ціхай Звяздзе. Тры невялікія вуліцы з пераважна драўлянымі хатамі. Чырвоны гмах мясцовага клуба. І любімае месца зімовых гульняў звяздоўскай дзятвы — старажытныя курганы. Да іх з самаробнымі санкамі накіроўваюцца трое хлапчукоў.

— Так, — быццам апярэджвае пытанне спадарожніца, — вось гэта і ёсць самая галоўная адметнасць нашай Звязды. У параўнанні з іншымі вёскамі ў нас шмат моладзі. У дзіцячым садку або ў школе амаль кожны трэці звяздовец. І, ведаеце, з вёскі з'язджаюць адзінкі. Наадварот, сюды прыязджаюць сем'і, нават з далёкай Удмурціі...



**— Усё прыходзіць і адыходзіць. Будзем проста любіць жыццё.**

Пазней стала вядома, што, нягледзячы на цяперашнія праблемы, у Звяздзе аднавілася будаўніцтва. Сёлета тут адсвяткавалі два наваселлі, у наступным годзе, як чакаецца, іх будзе чатыры. Зразумела, гэта яшчэ не паказчык. Але ўжо пачатак. Прынамсі, хацелася б верыць, што ў хуткім часе ў Звязды з'явіцца ўласная шчаслівая зорка.

**Сяргей ГРЫБ.**
**Фота Мікалая КРЫЎЦА.**



## ЛЕЎ рыхтуецца да скачка

*Апека высокапастаўленых людзей і замежных партнёраў, росквіт творчасці ў першай палове года. Процілеглая палавіна чалавецтва ўбачыць і ацэніць тое, як вы цудоўна арганізаваны. Не ўпускайце магчымасць паездкі за мяжу ці проста на адпачынак у пачатку года. Не трэба перааўэньваць свае сілы ў канцы ліпеня-жніўня, тады нават моцны апякун не выратуе вас. Лепш развітацца з даўгамі да гэтага тэрміну. Славалюбівы ЛЕЎ задумаецца аб кардынальнай змене прафесійнай дзейнасці, аб папярэдняй падрыхтоўцы да ўзлёту кар'еры ў пачатку веку. Асабліва трэба быць асцярожнымі ў прыняцці рашэнняў людзям, якія нарадзіліся 9—13 жніўня, таму што для іх любое рашэнне можа аказацца ракавым у жыцці.*



Жыць і выжываць становіцца ўсё цяжэй. Але хачу пажадаць усім беларусам, і асабліва «грывастым» львам, каб у гэты мітуслівы і складаны час вы не забываліся на падарожжы. Лавіце любы шанц. Падарожнічайце пешшу і на калёсах, сям'ёй і ў кампаніі: наша Беларусь і ўвесь свет такія прыгожыя, а мы так мала бачым!

Здароўя, прыемных уражанняў і падарожжаў у новым годзе разам са «Звяздой».

**Дзмітрый БАБІН.**



## ДЗЕВА змагаецца за месца пад сонцам

*Актыўная барацьба за месца пад сонцам. У пачатку ліпеня вы можаце адчуваць сябе Геркулесам у барацьбе з перашкодамі лёсу. Аднак усё мяняецца вельмі хутка, прычым не адзін раз. Не выключана, што многія славалюбівыя задумы пагражаюць разваліцца пад ударамі ў канцы ліпеня-жніўні наступнага года. У гэты час рэальная небяспека, што зыходзіць з-за мяжы. А падножка любімага чалавека можа выклікаць пераацэнку каштоўнасцяў. Вялікія дзеці прыносяць вялікія праблемы ў другой палове года. У першай палове года вам могуць даць няблага зарабіць. Лепш настроіцца на тое, што ў вас будзе не адзіная магчымасць кардынальна змяніць сваё жыццё.*

# Навагодні цуд уласнай вытворчасці

**Паслухмянасць і мяккасць характару ніколі не ўваходзілі ў лік дабрадзейнасцяў майго знака задыяка. І калі нешта нам, Дзевам, не падабаецца, хочацца тэрмінова і недвухсэнсоўна заявіць пра гэта і запатрабаваць арганізаваць жыццё належным чынам. Вось толькі каму канкрэтна гэту заяву рабіць?.. Можа, паскардзіцца ў навагоднюю «канцылярыю»?..**

У маім дзяцінстве не было моды пісаць нейкія пісьмы Санта-Клаусу, як гэта робяць зараз. Свой Дзед Мароз са Снягуркай быў больш блізкім і даступным, чым нейкі дзядзька з Фінляндыі, які ездзіць на аленях, як чукча, і нешта лапоча на смешнай і цалкам незразумелай мове.

Ды і што ў гэтых навагодніх чараўнікоў нам было прасіць? Жывыя ўпрыгожаныя ёлкі ў нас былі ў кожнай хаце, бо штучных у продажы ў невялікіх беларускіх гарадах не было. Як не было, дарэчы, і звышмагутных пыласосаў, а таму апалыя іголкі вымяталіся венікам аж да лета. Шакаладныя цукеркі, грэцкія арэхі і салодкія мандарыны пад ёлкай. Пах хвоі і цытрусавых суправаджаў усе навагоднія святы і вакацыі, як і смак савецкага «аліўе», якога ніколі не было зашмат, хаця гэта салата і сапраўды гатавалася ў тазіку. Праўда, зараз ва ўсіх часопісах спецыяльна для нас, неразумных, пішуць, што ў нармальнай, цывілізаванай салаце «аліўе» ніколі не выкарыстоўваецца трывіяльная каўбаса замест мяса — гэта, маўляў, дрэнны густ. Але асабіста мне, прабачце, напляваць на гэту тэорыю, бо на практыцы не толькі мяса, але і іншыя вядомыя інгрэдыенты «аліўе», не гаворачы ўжо пра традыцыі сустрэчы Новага года ў старым савецкім стылі, увогуле маладаступныя і каштуюць нямала.

Таму так і падмывае мяне апошнімі днямі сесці за стол і напісаць у стылі Дзевы петыцыю якому-небудзь Санта-Клаусу і папрасіць цуда, далучыўшы да гэтага доўгі спіс пажаданняў звычайнай беларускай жанчыны, дзе на першых месцах будуць зусім не мір ва ўсім свеце і не ўсеагульныя роўнасць і братэрства (хаця і гэта не будзе лішнім), а самае элементарнае. Потым хочацца сесці пад ёлку з падхватнікам і чакаць...



— Кожнай Дзеве — стаць сапраўднай жанчынай!

Навагодні стол — гэта ключавы момант цуду. Гэта толькі казачныя героі харчуюцца з настольніцы-самабранкі, а нашы мужыкі патрабуюць ад жонак простых і смачных страў з якасных прадуктаў.

Гаспадыні вымушаны займацца «паляваннем» штодзённа і, каб не правесці большую частку жыцця ў чэргах, скарыстоўваць і іншыя спосабы здабычы харчавання. Напрыклад, з ласкавай усмешкай на твары паддобрывацца да чарговай «цёткі Шуры» з гастранома, каб тая не забылася і пакінула «на беднасць» два дзесяткі яек ці сто грамаў масла. Пры гэтым «цётка Шура» будзе спрабаваць строіць з сябе ну калі не царыцу, дык «стаўбавую дваранку» дакладна, а вы будзеце абавязаны ў лепшым выпадку сто разоў сказаць ёй «дзякуй» і рабіць выгляд, што гэта добрая жанчына адарвала ад сябе кавалак, каб выратаваць вашу сям'ю. Калі вам гэта не падабаецца, то для гордых ёсць і іншыя месцы — як то прыватны рынак, дзе вы будзеце развітвацца са сваімі грашыма нашмат хутчэй, чым вы іх зараблялі.

Спадарства, не трэба хаваць ад усяго свету, што беларусы на свята не шкадуюць усіх сваіх запасаў «на светлы і на чорны дзень», і кожны новы год сустракаюць як апошні перад Апакаліпсісам! Нават у самай заможнай нямецкай сям'і, для параўнання, урачыстая калядная вячэра можа адрозніваецца ад звычайнай, напрыклад, святочнай салатай з цвятной капусты ці крыху большымі кавалачкамі мяса і келіхам шампанскага — пажадана адным, без фанатызму. А беларуская сям'я, якая ўвесь снежань харчавалася макаронай і бульбай, можа ў Новы год выставіць на стол тосты з ікрой, і ніхто не здзівіцца! Праўда, складаней стала з алкагольнымі напоямі, і зараз, часцей за ўсё, вам прапануюць у гасцях толькі танную гарэлку, адпаведна і ў вас, калі належыце недзе да сярэдняга класа, наўрад ці падымецца рука набыць бутэльку добрага віна за некалькі мільёнаў.

Мыццё і прыбіранне напярэдадні Новага года, хаця часам і нагадваюць цунамі, але ўсё ж уяўляюць сабой не самае разбуральнае стыхійнае бедства для нашай гаспадыні, асабліва пры наяўнасці ўсякіх сучасных бытавых прыбораў. Калі іх у вас няма, трэба без залішняй сціпласці некаторую частку фізічных высілкаў пераладжыць на плечы сваіх мужыкоў, крыху адарваўшы іх ад мноства службовых навагодніх вечарынак, якія плаўна пераходзяць адна ў адну.

Калі вам пашанцавала хоць на некалькі гадзін далучыць мужа ці іншую радню да хатніх клопатаў, то ў вас ёсць магчымасць выбраць момант і збегчы за падарункамі. Што і казаць, калядныя і навагоднія падарункі штогод проста неверагодна драбнеюць. Кажуць, што напярэдадні гэтага Новага года асаблівай папулярнасцю ў якасці падарунка карыстаецца на рынках туалетнае мыла, бо зубная паста даражэйшая і дарыць цюбік неяк няёмка. А вось мыла — «стыльна» і па кішэні не б'е, а галоўнае — кожнаму ў гаспадарцы спатрэбіцца.

Але, як кажуць, надзея — маці дурняў, і я таксама мару перад Новым годам не пра кавалак туалетнага мыла, а пра нешта вялікае і карыснае ці маленькае і каштоўнае, хаця паскудная інтуіцыя падказвае мне, што ўсе мае спадзяванні марныя. Калі сям'я пачынае эканоміць, то ў першую чаргу эканомяць на жаночых падарунках — маўляў, мілая, зараз не да раскошы!

А цяпер самае галоўнае для жанчыны. Перад святамі трэба выбраць час і ўважліва паглядзець на сябе ў люстэрка. І каб ніхто не перашкаджаў і вы самі нікуды не спяшаліся. Без макіяжу і пры добрым асвятленні. Зразумела, гэта справа не для слабанервовых. Днямі і я набралася мужнасці і зірнула ў люстэрка: Божа мой, які жах! Вынікі авітамінозу, нерацыянальнага харчавання, фізічнай і разумовай працы ў пошуку нечага аптымістычнага ў нашым цалкам песімістычным свеце адбіліся на маім твары.

Дзевы і ўсе іншыя гаспадыні! Так жыць нельга! Мы ўсе яшчэ жывыя і час ад часу да нас прыходзяць новыя бязглуздыя ідэі. Узнімем свой дух і павесялім сэрцы. Заўсёды можна знайсці некалькі хвілін, каб выправіць нешта ў старым годзе, а потым перанесці свае грандыёзныя задумкі ў год новы. Жывіце самі і дайце жыць тым, хто побач з вамі.

**Ілона ІВАНОВА.**

# Сустракаў я Новы год... ...НА КАНАРАХ

Ён прадставіўся Сержыкам. «Новы беларус». Нежанаты. Мае ў Ратамцы ўласны катэдж. У мінулым годзе вырашыў «гульнуць» — паехаў сустракаць Новы год на Канарскія астравы.

— Я, у натуры, Новы год наогул не люблю. «Шмон» там розны, «таскі» нейкія... Вось экзотыка — гэта па мне. Таму і вырашыў адзначыць навагоднія святы на Канарах. Купіў пуцёўку на Тэнерыфе — кажуць, што гэта самы вялікі востраў на Канарах і што гэта вяршыня гор патанулай Атлантыды. Прыехаў у ноч перад Нараджэннем Хрыстовым, у дом, куды мяне пасялілі (дом, дарэчы, злеплены з гліны і моху). І пасля вячэры пайшлі ў царкву паслухаць імшу ў гонар Нараджэння Хрыстова.

Праўда, на наступны дзень, 31 снежня, нам прапанавалі застолле з шампанскім, танцамі, і па старой іспанскай традыцыі трэба было з'есці 12 вінаградзін падчас навагодняга бою курантаў. Адзначыў, што называецца, па поўнай праграме. Адно дрэнна — на дэсерт прапанавалі шашлык з фруктамі і тараканамі. А яшчэ піцу з мадагаскарскімі павукамі. Салату з капусты з лічынкамі я ўжо не браў (хоць яна і каштавала ўсяго толькі 20 долараў), таму і з'ехаў адтуль раней часу...

# ...І НА НАРАХ

Валодзя, 11 гадоў турмы, чатыры «ходкі»:

— Карацей кажучы, сядзеў я на Заходнім Урале і ў Горках. Як вам сказаць? На Урале ў нас быў, што называецца, лесапавал. І вось, падыходзіць да цябе Гаспадар (канвойнік) і кажа: «Перавыконваеце норму павалу лесу — і Новы год для вас забяспечаны». А дагэтуль (мы куплялі дрожджы ізноў-такі праз ахоўнікаў) ставілі літраў 50 вады, кідалі дрожджы, яшчэ чаго-небудзь, ставілі састаў у мурашнік (мурашкі кіслату выдзяляюць), і праз дні тры-чатыры на нашу «братву» брагі хапала ад пуза. А ўвогуле на Новы год можна было пранесці ў «сям'ю» што заўгодна. Што такое «сям'я»? Гэта твае «паплечнікі». Іншымі словамі — тыя, хто з табой падзеліць кавалак хлеба. У нас былі «пацукі», аднак іх адразу ж ставілі на месца.

Дарэчы, як мы праносілі гарэлку на Новы год? Ідзеш у лазню — бярэш венік. Укладваеш загадзя перададзеную табе гарэлку ў венік, а збоку запіхваеш (каб тырчалі) пяць рублёў. І вось праходзіш каля «салагі»-ахоўніка, ён пачынае цябе ашукваць, знаходзіць купюру — і на венік не звяртае ўвагі...

— Я шмат чаго бачыў, шмат чаго ведаю, аднак хачу сказаць: «Адзначаць Новы год лепш на волі. Гэта ва ўсе часы быў тост усіх зняволеных».

**Алесь СІВЫ.**



— За «сівога»Ката!



## ШАЛІ цягнуць шчаслівы білет

*У першай палове года вы можаце выцягнуць шчаслівы білет у латарэі асабістага жыцця. Нават магчымы шчаслівы шлюб. Сяброўскія сувязі і кантакты выручаюць у любыя цяжкія моманты. Вы можаце пацярпець у выніку палітычных ці грамадскіх працэсаў у сакавіку. У чэрвені нехта можа перажыць нялёгкія хвіліны перагавораў з партнёрамі, дыпламатычныя няўдачы. Не будзьце бясклапотнымі ў жніўні, бо гэта можа каштаваць здароўя і вялізных праблем са сваякамі. Фінансавае становішча можа прыкметна палепшыцца ў другой палове года, аднак трэба выключыць любую рызыку ў сакавіку і ў канцы ліпеня-жніўні.*

# Дзед Мароз працуе па тарыфу. З новым шчасцем вас!

**Усе мы не адразу сталі журналістамі і палітыкамі... Усе мы калісьці на доўгачаканы Новы год былі «зайчыкамі», «вожыкамі» і «мядзведзямі»... І як Бога чакалі спаткання з Дзедам Марозам і Снягуркай...**

Сённяшнія дзеці — не выключэнне. Яны патрабуюць ад татаў і мам падарункаў ад казачных персанажаў, і бацькі, можа крыху і павохкаўшы, пачынаюць накручваць нумары тэлефонаў платных Марозаў і Снягурак. Карэспандэнт «Звязды» за некалькі дзён да Новага года таксама вырашыў патурбаваць апошніх.

...Перш-наперш давялося сутыкнуцца з Людмілай Анатольеўнай і Яўгенам Анатольевічам. «Снягурка» працуе ў адным з мінскіх дзіцячых садкоў, яе «калега» — на заводзе. Натуральная справа, што праца не вельмі грашавітая ў абаіх, вось і вырашылі яны крыху падзарабіць перад святамі, тым больш, што ў Яўгена Анатольевіча стаж Дзеда Мароза ўжо даволі ўнушальны — каля 20 гадоў. Праўда, з заказамі тандэму пакуль не шэнціць — весялілі публіку яны пакуль толькі адзін раз — у інтэрнаце, што на вуліцы Дзяніcаўскай.

— Калі так справы пойдуць і далей, то нават і не ведаем, ці будзем працягваць сваю дзейнасць, — скардзіцца «Снягурка». — Напрыклад, за пракатныя касцюмы ў суткі плацім 500 тысяч, а за прыватны выклік на кватэру бяром толькі мільён. Лічыце самі...

Вось Аляксей са сваімі цыркавымі прадстаўленнямі (і вядома ж, са Снягуркай) толькі ў мінулую нядзелю папрацаваў на два заказы па 2 мільёны кожны. Тым больш, што і машына свая, і касцюмы самі шылі, ды і язык, што называецца, «падвешаны» прафесійна.

— А што за сем'і, у якіх вы былі ў нядзелю?

— Ды звычайныя, як кажуць, сярэдняга дастатку. У Малінаўцы, напрыклад, дзве сям'і «скінуліся», каб танней абышлося павіншаваць сваіх дзяцей. А мне якая розніца? Падарункі ж усё роўна бацькі даюць Дзеду Марозу. Зрэшты, і самому прыемна дастаўляць радасць людзям.

Не адмаўляе гэта і іншая пара — Андрэй і Святлана, якія вось ужо чатыры гады працуюць разам. Абое нядаўнія выпускнікі Мінскага універсітэта культуры.

— Я ж як «Дзедам» стаў? — распавядае Андрэй. — Памятаю, яшчэ ў студэнцкую бытнасць напярэдадні Новага года (здаецца, 29 снежня было) вырашыў папіць піўца. Папіў, значыцца, падабрэла на душы і, натуральна, як асобу творчую, пацягнула на нейкія прыгоды. І тут успамінаю, што сябар пакінуў мне на нейкі час касцюм Дзеда Мароза. Не доўга думаючы, апранаю яго і накіроўваюся на вуліцу Маскоўскую праводзіць эксперымент — прайсціся ад моста да Ленінскага праспекта, заходзячы ва ўсе магчымыя адчыненыя ўстановы, «кафэшкі», магазіны і г. д. Проста заходзіў, віншаваў людзей з Новым годам, не патрабуючы ад іх нічога ўзамен. І што б вы думалі? Праз паўтары гадзіны, выканаўшы сваю эксперыментальную місію, я вярнуўся дадому з добрымі па тым часе для студэнта грашыма, бутэлькай гарэлкі, бутэлькай шампанскага, пяццю шакаладкамі, адной відэа- і дзвюма аўдыёкасетамі. Уяўляеце, людзі крыўдзіліся, калі я адмаўляўся браць іх падарункі.

Зараз Андрэй кажа, што псіхалогія людзей вельмі змянілася («чым багацейшы заказчык, тым больш скупы»). Праўда, існуе і такая катэгорыя, як «новыя беларусы». Гэтыя ніколі папярэдне Дзеда Мароза не заказваюць, затое такое жаданне іх можа наведаць у любы момант дня і ночы і месцазнаходжання. Дарэчы, калі здараецца ісці па выкліку, Андрэй носіць з сабой у кішэні газавы пісталет, а сваёй напарніцы дае электрашокер. На ўсякі выпадак. Які ўжо аднойчы адбыўся з Андрэем, калі падвыпіўшая кампанія займела нейкае не па-дзіцячы дурное жаданне «пацягаць дзеда за бараду».

Зрэшты, у жыцці гэтага Дзеда Мароза былі і больш прыемныя выпадкі.

— Гэта здарылася таксама, калі я вучыўся, — не без усмешкі пачынае Андрэй. — 31 снежня, недзе пасля адзінаццаці вечара, мяне з сябрам па універсітэту запрасілі павіншаваць адну сям'ю. Мы, як і патрабуецца, загрымiраваліся, апранулі касцюмы і — наперад. Я — клоун, сябар — Дзед Мароз. Прыходзім, гаспадары нам: «Прабачце, калі ласка, госці затрымліваюцца. Вы, можа, крыху пачакаеце ў суседнім пакоі, а калі ўсе будуць у зборы, мы вас паклічам. Няхай для нашых гасцей гэта будзе сюрпрызам. Згода?». Выклікаюць нас, значыцца, праз некалькі хвілін у залу, падымаем мы з сябрам вочы, і я адчуваю як мае ногі пачынаюць паціху падкошвацца. Такога «сюрпрыза» для сябе мы не чакалі. За сталом роўненька ў рад сядзяць ганаровыя госці... А па сумяшчальніцтву нашы выкладчыкі, якія нас і вучылі. Нічога іншага не заставалася, як змяніць голас і адпрацаваць праграму на ўсе сто. Бачым, што не пазналі. Закончылі, адзін з выкладчыкаў падымаецца і ў далоні пляскае: «Брава, брава, хлопцы!» Самае цікавае ў гэтай гісторыі, што пасля выхадных на лекцыі гэты ж самы выкладчык ляпнуў нам: «Вось на Новы год мне давялося сустрэцца з абсалютна таленавітымі хлопцамі-акцёрамі, у якіх нават адукацыі няма. А тут вучыш, вучыш вас і нейкія адны бяздарнасці атрымліваюцца.»

...На заканчэнне нашай гутаркі Андрэй успомніў, што нядаўна заходзіў павіншаваць шасцігадовага хлопчыка. Аддаўшы падарунак, дзядуля Мароз запаліў бенгальскі агонь і сказаў: «Пакуль гарыць гэты прыгожы агеньчык, ты можаш загадваць жаданні, якія абавязкова павінны збыцца». Агеньчык гарэў каля хвіліны. Хлопчык загадаў толькі два жаданні: «Каб усе людзі былі шчаслівымі. Каб на нас ніколі не падалі астэроіды».

І сапраўды. Навошта на нашу галаву ды яшчэ астэроіды?! З Новым годам усіх! З новым шчасцем!

**Алесь СІВЫ.**



## СКАРПІЁН у добрай форме

***Блізкі, любімы чалавек не столькі навучыць жыць, колькі дапаможа матэрыяльна. Вы ў добрай фізічнай форме. Трэба прыняць асаблівыя меры перасцярогі ў адносінах да сваіх капіталаў і зносінаў з канкурыруючымі камерцыйнымі структурамі ў сакавіку і асабліва ў жніўні. Можна шмат страціць, а акрамя таго — напалохаць сваім тэмпераментам шырокія слаі насельніцтва. Улетку абавязкова трэба выкраіць час на адпачынак, паколькі ў жніўні Вам спатрэбіцца максімум вытрымкі. Не выключаны пачатак працэсу разводу. І ўсё ж кола фартуны аказваецца на вашых калёсах у другой палове года.***



**— Мужнасці і мудрасці ўсім вам!**

*ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...*

# У Беларусі будзе «добрая пагода». Як толькі перажывём «дзевяты вал» крызісу

Тое, што Расію чакае светлая будучыня, ва унісон сцвярджаюць усе айчынныя астролагі. І хоць час прыходу гэтага «цудоўнага далёка» па розных версіях не супадае дакладна, адно відавочна — настане яно не заўтра. На думку вядомага расійскага астролага Паўла Глобы, сустрэча з якім адбылася напярэдадні навагодняга свята, адлік новага часу пачнецца з 2003 года. А да той пары злыя сілы будуць замінаць жыць усяму чалавецтву. Насельнікам пятай часткі сушы — таксама. А надыходзячы год абяцае пакінуць чорны адбітак у памяці кожнага расіяніна ды беларуса. Бо ён, 1999 год, — самы цяжкі, самы складаны.

Здавалася б, далей ужо няма куды. Але ж, бач ты, наверсе існуе іншае меркаванне. Таму, як сцвярджае Павел Глоба, чарговы «дзевяты вал» крызісу накрые Расію ў сакавіку-красавіку. Другі таксама не прымусіць сябе доўга чакаць і, даўшы час летам крыху перавесці дух, увойдзе ў кожны дом восенню наступнага года. У расіян і расіянак увесну і восеньскай парой зноў будуць круціцца галовы ад неверагодных скачкоў цэн, курса долара і хуткасці «раставання» зарплаты. Зрэшты, беларусаў гэта таксама датычыцца, і большасць насельніцтва рэспублікі будзе скардзіцца на дрэннае самаадчуванне: галаўны боль, памутненне ў вачах, цяжар у нагах, павышаны ціск і нікуды не вартыя нервы. Не прынясе істотнай палёгкі і маючая адбыцца вясной дэнамінацыя «зайчыкаў» І ў Беларусі, і ў Расіі, па меркаванню спадара Глобы, многія людзі апынуцца на мяжы выжывання.

Магчыма, каб разам адолець навалу, дзве краіны ў наступным годзе будуць рабіць больш цесным свой саюз. Аднак, кажа вядомы астролаг, тэмпы яднання застануцца ранейшымі.

Не выключана, што развіць хуткасць гэтаму механізму не дазволіць палітычная сітуацыя ў Расіі. На думку Паўла Глобы, сённяшняму ўраду кіраваць яшчэ дзесьці паўгода, прычым спачатку сыдзе з палітычнай арэны каманда Прымакова, а пазней і сам прэм'ер-міністр. Зрэшты, пераемнікам улады ў суседняй дзяржаве таксама будзе нясоладка, і да канца года і гэты ўрад пакіне сцэны «Белага дома».

Думка аб неабходнасці правядзення выбараў прэзідэнта краіны — адна з самых надакучлівых. Тым больш, што Барыса Ельцына не пакінуць праблемы са здароўем. І, як лічыць спадар Глоба, у надыходзячым годзе выявіцца яшчэ адна палітычная фігура. Насуперак сталічным інтарэсам, што ўзносяць Лужкова, расійскія рэгіёны прапануюць сваю кандыдатуру — саратаўскага губернатара Аяцкава.

Рэгіёны ўвогуле праявяць сябе ў наступным годзе актыўна. Настолькі, што магчыма паўтарэнне каўказскай вайны. Астролаг прадказвае, што калі разгарнецца грамадзянская вайна, то ў яе будзе ўцягнуты і Краснадарскі край.

Са сваімі бедамі Расіі давядзецца змагацца самастойна. Чакаць рэальнай дапамогі ад міжнародных арганізацый не варта. Увагу насельніцтва планеты будзе прыцягваць і іншая супердзяржава. Амерыка, не зважаючы на парады ААН, растрывожыць «асінае» гняздо на Усходзе, чым выкліча азлобленасць і рэакцыю ў адказ. Сітуацыя абяцае стаць некіруемай, а трэцяя сусветная вайна — адной з самых жорсткіх. Зрэшты, прэзідэнт ЗША Біл Клінтан за непаважлівыя адносіны да меркавання іншых паплаціцца пасадай. Павел Глоба кажа, што, хутчэй за ўсё, прэзідэнтам быць вялікаму Білу засталося нядоўга.

Усё гэта ліха пасыплецца на чалавецтва і планету ў 1999-м, таму што гэта год разгулу Антыхрыста падыходзіць як найлепш. Тры дзевяткі — перавернутыя тры шасцёркі, а гэта, як вядома, сатанінская лічба. У адыходзячым годзе, што, па вызначэнню спадара Глобы, быў годам вялікіх таямніц, упершыню праявіўся чалавек, якога пазней назавуць Антыхрыстам. Павел Глоба мяркуе, што прэтэндэнт на гэты «тытул» — чалавек з Усходу. Яму прыблізна 40 гадоў, імя яго Бангладэн.

Для разгулу нядобрых сіл у надыходзячым годзе спрыяльная сітуацыя. Дзве пятніцы 13-га, 28 ліпеня і 11 жніўня, давядзецца перажыць чалавецтву. Прычым 11 жніўня апакаліптычнае сонечнае зацьменне, прадказанае яшчэ Настрадамусам у XVI стагоддзі, выкліча сапраўдны пачатак канца свету. Летам будуць сыходзіць з рэек цягнікі, тануць караблі, падаць самалёты. Высокая рызыка забойства лідэраў, вядомых людзей, а таксама «зняцце» шапак і галоў. І Беларусь, па прадказанню Паўла Глобы, не абыдзецца без перастановак ва ўрадзе. Аднак гэта будзе рабізна на паверхні вады. У параўнанні з усім светам рэспубліка будзе жыць ціха і спакойна, і такі лад жыцця не парушаць ніякія хваляванні.

Апошнія не пагражаюць і сем'ям. Нягледзячы на ўсялякія катаклізмы — эканамічныя і палітычныя, у дамах павінна ўсталявацца «добрая пагода».

**З Паўлам Глобам сустракалася Жанна КАТЛЯРОВА.**

# Як раніцай 1 студзеня хутка вярнуцца да нармальнага жыцця

**Трэба ўмець піць, кажуць у народзе. Але гэта, здаецца, не пра нас і тым больш не ў навагоднюю ноч. Праўда, потым, раніцай... Піць! Пі-іць!! Добра, калі не трэба займацца справамі, і, арасіўшы засохлы арганізм, можна легчы ў ложак. А калі трэба... Значыць, важна хутка прывесці сябе ў належны стан.**

Якім чынам гэта зрабіць, калі баліць галава, а яна, вядома ж, 1 студзеня любога года, як правіла, баліць. У такім выпадку можна параіць адно: нейкім чынам дачыкільгаць да халадзільніка (у каго яго няма, выбегчы ў двор — балазе, на дварэ мароз), узяць крыху лёду, пакласці яго ў цэлафанавы пакет, а потым, прыняўшы гарызантальнае становішча, прыкласці да галавы гэты халодны кампрэс (каб не спаліць скуру, не кладзіце яго на лоб). Ужо праз пяць хвілін вы адчуеце палёгку: пад уздзеяннем холаду сасуды, якія ад алкаголю расшырыліся, павінны прыйсці ў норму.

Калі мучыць смага (а яна, вядома ж, мучыць), трэба выпіць халоднай мінеральнай вады з лімонным сокам і адной сталовай лыжкай мёду. Хутка выводзіць алкаголь з арганізма гарбата з шалфеем. Яна ж цудоўна здымае ацёчнасць. Праўда, не ўсім дадзена выпіць з пахмелля гэту спецыфічную па смаку і паху вадкасць. Замяніце яе гарбатай з мятай. Эфект будзе крыху больш сціплы, але дастатковы, каб адчуць сябе, як кажуць, чалавекам. Дрэнная звычка часта назіраецца ў тых, хто не курыць, але, выпіўшы, не цураецца скласці кампанію курцам. У выніку на наступны дзень — хоць скрозь зямлю праваліся. У такім разе дапаможа свежы сок ківі ці апельсіна, які поўнасцю адновіць знішчаны нікацінам запас вітаміну С. Прыхільнікі экзотыкі раяць выкарыстаць таксама «Крывавую Мэры». Не, у гэты кактэйль не ўваходзіць тая вадкасць, пра якую вы толькі што падумалі! Таматны сок, соль, перац і звычайны яечны жаўток — вось яго кампаненты. Перамяшайце ўсё гэта, выпіце — і вы адчуеце асалоду жыцця.

Павышаную кіслотнасць страўніка добра нейтралізуе раствор пітной соды (адна чайныя лыжка на шклянку вады), магнезія з вітамінам С (магнезія звязвае да 60 працэнтаў алкаголю).

Калі ж у вас зусім няма сіл, дайце нырца ў гарачую ванну. Але не больш чым на дваццаць хвілін і з тэмпературай вады 35—37°. Яшчэ лепш, калі ванна будзе з лавандай ці размарынам. Падобная працэдура, па меркаванню медыкаў, павялічвае выдзяленне солі ныркамі ў 25 разоў, а значыць, арганізм хутка ачышчаецца ад шлакаў і «ядаў». Дарэчы, фіны заўсёды такім чынам змагаюцца з пахмеллем. Натуральна, у сауне: 2-3 заходы па 5—7 хвілін здольны поўнасцю вывесці алкаголь. Пры жаданні, калі не хочаце ляжаць у ванне, выкарыстайце пераменны душ. Пачніце адразу з цёплага, затым — гарачы і завяршыце халодным, па 3—2—5 секунд адпаведна. А вось японцы, якія перабралі норму, пасля водных працэдур робяць дыхальную гімнастыку: на працягу 6 секунд — запаволены глыбокі ўдых, затым на 6 секунд трэба затрымаць дыханне і ў наступныя 6 секунд зрабіць запаволены выдых.

Паспрабуйце, дапаможа!

***Жадаем вам добра адсвяткаваць Новы год, а раніцай усё ж паспяхова вярнуцца да нармальнага жыцця. Будзьце заўсёды здаровы!***

# Стары год канчаем — новы зачынаем...

## Як робяць гэта папулярныя людзі

**1998 год быў багатым на падзеі не толькі палітычныя і эканамічныя, спартыўныя, але таксама і культурныя. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, мы не сталі менш хадзіць у тэатры, у канцэртныя залы, на выстаўкі мастакоў і фатографаў. Значыць, не так усё дрэнна ў нашым жыцці. За гэты год у рэспубліцы прайшло шмат канцэртаў, фестываляў: «Славянскі базар», «Лістапад-98», «Залаты шлягер»... Гасцямі нашай краіны былі многія вядомыя людзі, якія сваёй творчасцю дапамагалі нам змагацца з бязладдзем нашага жыцця.**



**— Не шукайце чорную кошку ў цёмным пакоі. Яе там няма.**

Дзелячыся сваімі планамі на будучы год, **Аляксандр Абдулаў,** сказаў, што яны ў першую чаргу звязаны з творчасцю. «Казаць аб нейкіх канкрэтных момантах я не магу. Усё ў руках Божых. Як ён распарадзіцца, так і будзе. Я не люблю шумных кампаній, таму Новы год буду адзначаць ціха, каб было камфортна для душы».

**Алег Янкоўскі** па традыцыі сустрэне Новы год на дачы ў Леаніда Ярмольніка: «Будзе шмат гарэлкі і добрая закуска да яе — квашаная капуста». Што датычыць жаданняў у гэтую чароўную ноч, дык яны звычайныя, як і ў любога акцёра: чакаць цікавых прапаноў і здымацца ў добрых фільмах.

Спявак **Алег Газманаў** таксама будзе сустракаць свята на дачы, але сваёй. Ён любіць рабіць гэта з шумам, музыкай, агнямі, для чаго завозіць туды ў вялікай колькасці хлапушкі, бенгальскія агні, ракеты. Летась гэта ледзь не прывяло да пажару, была выклікана нават пажарная каманда, якая выратавала сітуацыю, а заадно і свята, бо пажарнікі не сталі псаваць настрой папулярнаму артысту і нават не аштрафавалі яго. Алег Газманаў у знак удзячнасці спеў для іх песню прама на снезе і раздаў аўтографы.

Вядомы беларускі кампазітар **Эдуард Ханок** збіраецца святкаваць Новы год у коле сваёй сям'і. Два апошнія гады сям'я Ханкоў адзначала гэта свята ў санаторыі «Белая Русь» у Туапсэ. Сёлета яны збіраюцца туды ехаць адразу ж пасля Новага года. Акрамя ўсяго гэтага Эдуард Сямёнавіч будзе адзначаць і яшчэ дзве не менш прыемныя даты: выхад новай кнігі «Пу-гачоў-шчына», і прыняцце ў аспірантуру расійскай акадэміі музыкі.

Нязменная вядучая «Славянскага базара» і праграмы «Бон-тон» **Алёна Спірыдовіч** ужо каторы год марыць сустрэць свята са сваёй сям'ёй. Але, на жаль, гэта не ўдасца ёй і сёлета — прыйдзецца працаваць. Алёна падзялілася з намі, што галоўнай падзеяй адыходзячага года для яе было наведванне «Славянскага базара», фестывалю «Кінатаўр», дзе яна пазнаёмілася з цікавымі людзьмі і адкрыла для сябе шмат новага.

— Ад надыходзячага Новага года я чакаю ўсяго добрага. Спадзяюся, што ён будзе лепшы, чым стары, — сказала Алёна.

Стары год, шлёпаючы стаптанымі валёнкамі па лужах талай вады, пакідае нас, а Новы год з кучай падарункаў ідзе нам насустрач. Сустрэнем жа яго весела!

**Вольга РАМАНЮК.**



*Навошта «моржыку» адзенне,*
*Калі пялешчацца ў вадзе ён?*
*Мароз? Няхай сабе хоць трыццаць, —*
*Марозу «моржык» не баіцца*

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**



## СТРАЛЕЦ узнімае пунсовыя ветразі

***Пунсовыя ветразі вабяць вас, і Асоль напоўніць жыццё асаблівай чароўнасцю. Вы можаце адкрыць для сябе Амерыку, у прамым і пераносным сэнсе гэтага слова, у першай палове года. Непажаданыя замежныя паездкі і кантакты ў чэрвені. Вас могуць паставіць перад фактам з'яўлення ці апекі над нашчадкамі. Можа, трэба зменшыць фінансавую рызыку, па-філасофску глядзець на шматлікія няўдачы на працы ў жніўні і больш увагі аддаваць стану здароўя. Улетку не выключаны судовыя цяжбы. За ўсім гэтым — спрыяльныя перамены ў лёсе дастойнага чалавека ў самым пачатку стагоддзя.***



**— Глядзім удалячынь: адзін бачыць яву, другі — міраж...**

**Далячыньчасу заўжды вабіла думкі, так , як прыцягвае да сябе агонь...**

**Не гасіце агонь усэрцы. Будучае за святлом ад нашых сённяшніх кастроў. Ад нашай сённяшняй «ЗВЯЗДЫ».**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС*: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.
*ТЭЛЕФОНЫ*: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.
*ФАКС*: 68-27-79. **E-mail:** daily@zwyazda.belpak.minsk.by **«ДЛЯ ВАС»** — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.989. Індэкс 63850.
Зак. № 7609.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12